ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№7 (64) ліпень 2016 год

CATHOLICNEWS.BY

## Урачыстасці ў Будславе 2016

Стар. 2–3



## Пры якіх умовах можна пабежмавацца без падрыхтоўкі?

Стар. 6



## Біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB: "Хацелася б пачуць ад спадарыні Алексіевіч канкрэтныя факты"

Стар. 3



## У Мікалаеве памаліліся за ахвяраў "Дарогі смерці"



Стар. 4

## Ксёндз і лабрадоры



Стар. 8

# Кардынал з Вены наведаў Беларусь у якасці пасланніка Папы



**“Сапраўдным нацыянальным святам” назвалі некаторыя журналісты ўрачыстасці ў Будславе, куды кожны год збіраюцца дзясяткі тысяч вернікаў розных канфесій, каб ушанаваць Маці Божую ў яе Будслаўскай іконе.**

**а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*

Пра важнасць і ўзровень святкавання сведчыць таксама і тое, што ўжо каторы год Святы Айцец дасылае сюды свайго прадстаўніка. Гэтым разам дадатковай нагодай для візіту папскага пасланніка, арцыбіскупа Вены кардынала Крыстафа Шонбарна OP, стала святкаванне 25-годдзя заснавання Мінска-Магілёўскай мітраполіі.

Іерарх з’яўляецца старшынёй Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Аўстрыі, а таксама ўваходзіць у якасці ганаровага чальца ў шэраг кангрэгацый і папскіх радаў у Ватыкане. Візіт папскага прадстаўніка ёсць не толькі знакам увагі Апостальскай Сталіцы да юбілею Касцёла ў Беларусі і да Нацыянальнага санктуарыя ў Будславе, але таксама мае і практычнае значэнне.

У праграму візіту кардынала Шонбарна, акрамя ўдзелу ў будслаўскіх урачыстасцях, уваходзілі сустрэчы з каталіцкімі і праваслаўнымі іерархамі, прадстаўнікамі ўлады, наведванне месца памяці нацысцкіх ахвяр у Трасцянцы і інш.

## Дыялог з праваслаўнымі

1 ліпеня адбылася сустрэча папскага пасланніка з Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі праваслаўным мітрапалітам Мінскім і Заслаўскім Паўлам. Як паведамляе партал Catholic.by, у ходзе размовы былі закранутыя пытанні рэлігійнай адукацыі ў беларускіх школах. Абодва бакі выказалі шкадаванне ў сувязі з сітуацыяй у краіне, калі ў людзей, якія не атрымалі ў свой час рэлігійнай адукацыі, адсутнічае імунітэт перад шарлатанамі і псеўдарэлігіямі.

У гэты ж дзень кардынал сустрэўся з міністрам замежных спраў Беларусі Уладзімірам Макеем. Падчас сустрэчы былі абмеркаваны асноўныя кірункі супрацоўніцтва Беларусі і Каталіцкага Касцёла.

## Наведванне анкалагічна хворых дзяцей

Таксама папскі прадстаўнік наведаў Цэнтр “Карытас” Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі ў Ляскоўцы, дзе сустрэўся з хворымі дзецьмі і іх сем’ямі. Тут у спецыяльна пабудаваных дамах Цэнтра “Карытас” пражываюць сем’і, чые дзеці праходзяць лячэнне, а таксама знаходзяцца на рэабілітацыі ў Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры анкалогіі і медыцынскай радыялогіі імя М. Аляксандрава ў аграгарадку Лясны ў Мінскім раёне. Пражыванне ў такіх дамах для сем’яў хворых дзяцей бясплатнае. Фінансавую падтрымку Цэнтру “Карытас” у гэтым пытанні аказвае “Карытас” Аўстрыі.

Падчас адведвання кармеліцкіх супольнасцяў на Мядзельшчыне,упрыватнасці мядзельскай Кальварыі, кардынал высока ацаніў веру беларускіх католікаў: *“Ваш народ не толькі праходзіў прыпынкамі Кальварыі, але і перажываў яе,* – зазначыў іерарх. – *Асабліва гэты шлях перажылі вашыя бабулі. Такія людзі ратавалі веру і выратавалі Касцёл. Дзякуючы іх веры сёння ўзводзяцца новыя святыні, за якія дзякуем Пану Богу”.*

## Асвячэнне касцёла ў Мінску

Адну з новых святынь асвяціў сам папскі пасланнік.

> **Упершыню за апошнія 105 гадоў у беларускай сталіцы быў асвечаны каталіцкі касцёл**

Асвячэнне новазбудаванай святыні ў парафіі Маці Божай Будслаўскай адбылося ў Мінску 3 ліпеня. “Божы народ у гэтай краіне шмат выцерпеў, сутыкнуўшыся з пераследам. Людзі шмат чым ахвяравалі дзеля веры, але яны яе захавалі”, – заўважыў іерарх.

## Кардынал перадаў рэліквіі св. Язафата Кунцэвіча

Важны і каштоўны жэст атрымалі ад папскага пасланніка беларускія грэка-католікі. Падчас начной Імшы ў Будславе кардынал Крыстаф Шонбарн перадаў апостальскаму візітатару архімандрыту Сяргею Гаеку рэліквію полацкага ўніяцкага арцыбіскупа святамучаніка Язафата Кунцэвіча – набедранік, частку яго арцыбіскупскага адзення, якое захоўваецца ў Вене. “Атрымаць каштоўную рэліквію, набедранік – знак архіпастырскага служэння св. Язафата – для нас духоўнае ўмацаванне ў нашай веры і вернасці Рымскаму Апостальскаму Пасаду, заахвочванне да руплівага сведчання Евангелля”, – адзначыў кіраўнік Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.

Звяртаючыся да беларускіх вернікаў падчас галоўнай святой Імшы на ўрачыстасцях у Будславе, кардынал сказаў: “Я хацеў бы падзякаваць кожнаму з вас. Сёння я маю магчымасць быць сведкам вашай моцнай веры. І мы разам можам сказаць: шчаслівая тая краіна, якая паверыла, тая сям’я, якая паверыла, шчаслівы кожны з нас, хто паверыў”.

> **У межах візіту ў Беларусь кардынал праехаў дарогамі нашай краіны 700 км**

Як і папярэднія папскія пасланнікі, ён адзначыў, што “ўбачыў вельмі жывы Касцёл, у якога малады твар, шмат моладзі... Разам з тым мяне вельмі ўразілі твары пажылых людзей, у якія я стараўся ўглядацца: яны вельмі кранулі глыбінёй і напоўненасцю”, – адзначыў у каментарыі для Catholic.by высокі госць. Кардынал Шонбарн таксама дадаў, што прабывае пад глыбокім уражаннем ад наведвання Мемарыяльнага комплекса “Трасцянец” і крыпты храма Усіх Святых у Мінску, дзе захоўваюцца парэшткі і попел загінулых яўрэяў і іншых ахвяраў вайны.



# Папа Францішак: Смяротнае пакаранне недапушчальнае

***“Смяротнае пакаранне недапушчальнае, якім бы цяжкім ні было злачынства асуджанага”,*** **– падкрэсліў Папа Францішак у відэапасланні, каторае адрасаваў удзельнікам VI Міжнароднага кангрэсу супраць смяротнага пакарання. Сустрэча праходзіла 21-23 чэрвеня 2016 года ў горадзе Осла.**

Найвышэйшую меру пакарання Святы Айцец назваў “парушэннем недатыкальнасці жыцця і чалавечай годнасці” і падкрэсліў, што смяротны прысуд *“супярэчыць Божай задуме адносна чалавека і грамадства, Яго міласэрнай справядлівасці”*. Пантыфік заўважыў, што пакаранне смерцю не аднаўляе парушаны парадак, але ўяўляе сабой помсту. *“Запаведзь “Не забівай” мае абсалютную каштоўнасць і прымяняецца аднолькава як да невінаватага, так і да злачынцы”*, – нагадаў Францішак.

Святы Айцец выказаў спадзяванне, што Юбілейны Год Міласэрнасці, які перажывае паўсюдны Касцёл, стане добрай нагодай для выхавання большай павагі да годнасці чалавечага жыцця. *“Сёння я буду натхняць усіх працаваць не толькі ў кірунку адмены смяротнага пакарання, але і паляпшэння турэмных умоў, каб яны забяспечвалі паважлівае стаўленне да чалавечай годнасці зняволеных”*, – дадаў Пантыфік.

Папа выказаў перакананне, што правасуддзе мае на мэце рэабілітацыю злачынцы. Яно павінна спрыяць таму, каб у будучым асуджаны мог нанова ўключыцца ў грамадства. *“Пакаранне дзеля пакарання, якое не пакідае надзеі, уяўляе сабой адну з форм катавання”*, – заключыў Святы Айцец.

VI Міжнародны кангрэс супраць смяротнага пакарання арганізаваны няўрадавымі арганізацыямі “Разам супраць смяротнага пакарання” і “Сусветная кааліцыя супраць смяротнага пакарання” пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў Нарвегіі. У мерапрыемстве прынялі ўдзел прадстаўнікі каля 140 арганізацый з усяго свету.

*Ватыканскае радыё*

# Урачыстасці ў Будславе 2016: ТОП-5 адметнасцяў





**1.** Важнай падзеяй для Касцёла ў Беларусі стала прысутнасць у Будславе арцыбіскупа Вены кардынала Крыстафа Шонбарна, якога Папа Францішак прызначыў на святкаванне 25-годдзя заснавання Мінска-Магілёўскай мітраполіі. Папскі пасланнік удзельнічаў у начной Эўхарыстыі, а таксама ўзначаліў галоўную Імшу 2 ліпеня, на якой звярнуўся з прамовай да беларускіх вернікаў.

**2.** На сёлетніх урачыстасцях у Будславе папскі легат перадаў грэка-католікам Беларусі рэлівію (частку арцыбіскупскага адзення) святога Язафата Кунцэвіча, біскупа і мучаніка, які з'яўляецца галоўным апекуном Віцебскай дыяцэзіі.

**3.** З рук Крыстафа Шонбарна 28 чалавек атрымалі ў Будславе ганаровыя граматы з нагоды юбілею – 25-годдзя заснавання Мінска-Магілёўскай мітраполіі. Святары, законныя асобы і свецкія вернікі з усіх дыяцэзій былі ўзнагароджаныя за вялікі асабісты ўклад у станаўленне і развіццё Каталіцкага Касцёла ў Беларусі.

**4.** Упершыню будслаўскі санктуарый наведалі каталіцкія скаўты. Сёлета яны святкуюць 15-годдзе свайго існавання ў Беларусі і прыйшлі, каб падзякаваць Богу за свой юбілей.

**5.** У гэтым годзе пілігрымка з Маладзечна – самае шматлікае паломніцтва ў Будслаў. Колькасць удзельнікаў – 350 чалавек. А самы доўгі шлях прайшлі пілігрымы з Баранавічаў – амаль 300 кіламетраў цягам 9-ці дзён.

***Падрыхтавала Ірына Грэйць***



## Біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB: “Хацелася б пачуць ад спадарыні Алексіевіч канкрэтныя факты”

**Нобелеўскі лаўрэат па літаратуры спадарыня Святлана Алексіевіч на сустрэчы з чытачамі ў Брукліне заявіла, што падчас ІІ Сусветнай вайны ксяндзы ў Польшчы наўпрост на службах казалі: “Забі яўрэя!” І што палякі горш за ўсіх ставіліся да яўрэяў.**

**■ кс. Віктар Місевіч**



“Каталіцкі Веснік” звярнуўся па каментарый да дапаможнага біскупа Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандра Яшэўскага SDB, які паходзіць з Гродзеншчыны, дзе традыцыйна пражывае вялікая колькасць палякаў і святароў з польскімі каранямі.

“Я асабіста хоць не з'яўляюся гісторыкам, але вельмі здзіўлены такімі выказваннямі спадарыні Алексіевіч”, – сказаў біскуп. – За сваё 15-гадовае служэнне святаром у парафіях Баруны, Жодзішкі, Жупраны і Смаргонь я ніколі не чуў ад людзей старэйшага пакалення (а меў магчымасць размаўляць з імі часта), што святары заклікалі забіваць яўрэяў. Паўтаруся: ніколі такога не чуў! Наадварот, ведаю цудоўны прыклад ахвярнага служэння ксяндза Запасніка з Жодзішак, які ратаваў ахвяраў спачатку ад саветаў, а потым ад немцаў, рызыкуючы сваім жыццём. Беручы гэта пад увагу, я спадзяюся, што спадарыня Алексіевіч мае моцныя аргументы, якія можа прадставіць грамадству і нам, каго гэта выказванне закранула, і назваць канкрэтныя імёны і прозвішчы. Каб сцвярджаць такое, неабходна мець дакладнае абгрунтаванне, і я вельмі яго ад спадарыні Алексіевіч чакаю. У іншым выпадку трэба абвергнуць сваё выказванне”.

## Паведамленне Старшыні ККББ наконт правядзення Брацтвам св. Пія Х рэкалекцый па метадзе св. Ігнацыя Лаёлы

У апошнія часы ў СМІ з'явілася інфармацыя аб правядзенні Брацтвам св. Пія Х духоўных рэкалекцый па метадзе св. Ігнацыя Лаёлы.

У сувязі з гэтым ад імя Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі хачу нагадаць каталіцкім вернікам, што вышэйзгаданае Брацтва не знаходзіцца ў кананічнай еднасці з Каталіцкім Касцёлам і таму нельга прымаць удзел у арганізаваных ім набажэнствах і рэкалекцыях.

Адначасова заахвочваю да малітвы ў інтэнцыі найхутчэйшага вяртання Брацтва св. Пія Х ва ўлонне Каталіцкага Касцёла.



***Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч*** – *Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі*

# У Мікалаеве памаліліся за ахвяраў “Дарогі смерці”



**У вёсцы Мікалаева Шумілінскага раёна ўшанавалі памяць ахвяр, якія загінулі ад рук сталінскіх катаў 75 гадоў таму.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

На пачатку вайны з немцамі вязняў турмы ў Беразвеччы савецкія ўлады вырашылі эвакуяваць на ўсход. План прадугледжваў правядзенне гэтай эвакуацыі з дапамогай чыгуначнага транспарту. Але імклівае наступленне немцаў перашкодзіла ажыццяўленню гэтага: чыгунка была занятая вайсковымі эшалонамі, некаторыя станцыі захопнікі паспелі разбамбіць, цэнтральныя дарогі выкарыстоўваліся для патрэбаў войска. Таму вырашылі праводзіць эвакуацыю ў пешым парадку. Вязняў, што ўтрымліваліся ў Беразвецкай турме, 24 чэрвеня вывелі на турэмны двор і пагналі пешкі на ўсход, да Віцебска.

Людзям не давалі есці і піць, іх гналі вясковымі дарогамі. Шмат хто з вязняў загінуў па дарозе ад голаду і абяссільвання.

У абед 26 ліпеня каля Улы калона перайшла мост праз Дзвіну. У гэты час над калонай стаў кружыць нямецкі самалёт, які адкрыў агонь па канваірах. Вязняў спачатку паклалі на зямлю, а потым сталі страляць па іх з кулямётаў. З некалькіх тысяч чалавек выратавацца змаглі толькі адзінкі. Як успамінаюць відавочцы таго злачынства, уся дарога была чырвонай ад крыві.

Канваіры загадалі вяскоўцам звезці трупы ў капцы для бульбы. Калі прыйшлі немцы, целы загінулых эксгумавалі і пахавалі ў агульнай магіле на ўскрайку лесу каля вёскі Мікалаева.

Доўгі час гэта магіла стаяла закінутая, але ў 90-х гадах мінулага стагоддзя тут з’явіўся невялікі помнік.



У нядзелю, 26 чэрвеня, тут адбылася святая Імша ў памяць тых, хто загінуў на Дарозе смерці ў чэрвені 1941 года. На Імшы прысутнічалі жыхары Мікалаева і Улы, прадстаўнікі польскай амбасады на чале з амбасадарам Конрадам Паўлікам, святары з Улы, Лёзна, Глыбокага і Віцебска. Богаслужэнне ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.

У сваім слове да вернікаў біскуп звярнуў увагу на тое, што мы павінны памятаць пра ўсе ахвяры вайны, каб не дапусціць такіх злачынстваў у будучыні. Ён адзначыў, што гэтыя ахвяры павінны аб’яднаць беларускі і польскі народы ў іх імкненні да міру.

Біскуп таксама падкрэсліў каштоўнасць свабоды ў чалавечым жыцці. “Кожны чалавек нараджаецца свабодным, – адзначыў іерарх, – але, на жаль, знаходзяцца людзі, якія хочуць забраць у чалавека гэту свабоду. Нам усім трэба не дапусціць паўтарэння такіх трагедый у будучыні. А каб такое не паўтаралася, трэба памятаць пра гэтыя ахвяры”.

Трэба адзначыць, што хаця лічыцца, што ў Мікалаеве пахаваны ў асноўным палякі, гэта ў сваёй большасці жыхары Глыбоччыны, Пастаўшчыны, Шаркаўшчыны, Браслаўшчыны, Мёршчыны... Так, яны лічылі сябе палякамі, бо да 1939 года нашы землі ўваходзілі ў склад Другой Рэчы Паспалітай.

На жаль, наша дзяржава пакуль не імкнецца памятаць пра гэтых людзей. На помніку ў Мікалаеве ёсць надпіс, што людзі загінулі 26 чэрвеня 1941 года, але ад чыіх рук загінулі, не ўзгадваецца.

Пакуль жа толькі беларускія хрысціяне памятаюць і моляцца за ахвяраў той вайны, прычым моляцца за ўсіх ахвяраў.

# З мудрым словам і пабожнымі спевамі – да Святыні



**18 чэрвеня ксёндз-пробашч Павел Кнурэк арганізаваў пілігрымку да Святой Брамы ў санктуарый Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе.**

**Нэля Лось**, *парафія св. Андрэя Апостала (Лынтупы)*

Выехалі а 9-й гадзіне раніцы на аўтобусе групай у 48 чалавек. І 10 чалавек на ўласных машынах. Сабраліся людзі рознага ўзросту: маці з дзецьмі, сямейныя пары, сталыя жанчыны і моладзь.

Паездка пачалася з сумеснай ружанцовай малітвы. У разважаннях ксёндз Павел заклікаў прымаць любоў Бога адкрытым сэрцам, тлумачыў, што Стваральнік далікатна стукае ў нашыя сэрцы, запрашаючы да супрацоўніцтва. А ці заўсёды мы чуем гэтыя звароты? Ці прымаем належным чынам працягнутую далонь нашага Пана?

Сучасны свет як быццам не заўважае, што рухаецца да свайго разбурэння. Сусветнае зло руйнуе зямлю войнамі і крызісамі, прыроднымі катаклізмамі і тэхнагеннымі катастрофамі, зганяе з нажытых мясцін цэлыя народы, што, як сухое лісце, нясе ветрам кепскіх перамен у пошуках лепшай долі. Мы бачым, як зло стараецца знішчыць хрысціянскія сем'і, разбураючы іх п'янствам, абортамі, распустай, дрэнным выхаваннем дзяцей, разводамі... Толькі ў бляску Божай Міласэрнасці, у любові і дараванні бліжняму парвецца ланцуг нянавісці і помсты, а чалавек захавае годнасць дзіцяці Божага.

Стаіўшы дыханне, слухалі мы мудрыя словы нашага святара, разам з арганісткай Наталляй дружна спявалі хрысціянскія песні. А аўтобус імчаў нас праз гарадкі і вёскі. Праязджалі ля шматлікіх рэк, рачулак, азёр. Плылі за вокнамі аўтобуса палі ў зялёных хвалях заквітнелай збажыны. Хацелася ўсклікнуць: “Цудоўныя справы рук Тваіх, Божа, дзякуй Табе, што жыву я на гэтым свеце!”

Праз дзве гадзіны падарожжа з заміраннем сэрцам пераступаю парог святыні: “О Езу, Збаўца наш, Найчысцейшая Панна, іду да Вас, поўная любові і надзеі атрымаць патрэбныя ласкі і прабачэнне за правіны, не пакіньце мяне ў нядолі маёй...” Кожны з нас прынёс сюды свае думкі і просьбы, свой боль і свае спадзяванні. У касцёле ўрачыста і ціха, нават дзеткі не сваволяць, а ціха сядзяць на лаўках.

Пасля знаёмства са святыняй была магчымасць прыступіць да споведзі. Святая Імша ў інтэнцыях вернікаў нашай парафіі, якіх мы прывезлі з Лынтупаў, а таксама нашых асабістых пачалася а 12-й гадзіне. Яна была прасякнута асаблівым сэнсам і хвалявальнай глыбінёй. Блішчалі слёзы на вачах падчас святой Камуніі.

Пасля Імшы мы мелі дзве гадзіны, каб падсілкавацца і агледзець наваколле з вяршыні Замкавай гары. Нездарма абраў Божы Провід гэты край для сваіх планаў, каб узмацняць, бараніць і пашыраць каталіцкую веру ў Беларусі.

А трэцяй гадзіне дня перад Найсвяцейшым Сакрамантам мы перапрашалі Пана Бога за нашыя грахі і грахі ўсяго свету, прасілі, каб кожны з нас меў прагу і жаданне жыць з Хрыстом, згодна з Божымі запаведзямі і ўласным сумленнем. Пасля малітвы аздараўлення і блаславення развіталіся са святыняй. Крыху стомленыя, але напоўненыя станоўчымі эмоцыямі вярталіся дамоў. Калі пад'язджалі да Лынтупаў, ксёндз Павел прапанаваў памаліцца літанію да Найсвяцейшага Сэрца Езуса. Як зладжана гучалі нашы галасы, як светла і радасна было на душы!

Мы ўдзячныя ксяндзу Паўлу за цудоўную пілігрымку! Гэтае падарожжа – дарога да веры, надзеі, любові. Яна праходзіць праз Міласэрнае Сэрца Езуса, пакідаючы ў нашых сэрцах паразуменне, дабрыню і зычлівасць.

Жадаем з нагоды імянін ксяндзу-пробашчу Паўлу плёну ў працы на карысць святога Касцёла, Божай апекі і блаславення Маці Божай ва ўсіх справах, пазітыўнага настрою, моцнага здароўя!

# Разам мы можам дапамагчы Сафіі Шылей і Івану Зубко

**На фэстах у Мосары і Будславе можна было пабачыць гандлёвы намёт з надпісам "Дабрачынны кірмаш". "Каталіцкі Веснік" вырашыў пацікавіцца, што гэта за акцыя.**

**Зміцер Лупач**


Тамара Зубко і Рыта Шылей на фэсце ў Будславе.

**– Скажыце, калі ласка, што ў вас за дабрачынны кірмаш?**

**Тамара Зубко:**

– Гэты дабрачынны кірмаш для нашых дзетак Сафіі Шылей і Вані Зубко. У іх цяжкае захворванне – дзіцячы цэрэбральны паралюш.

Мы з горада Паставы, і на гэтым кірмашы рамеснікі не толькі з нашага горада, але з іншых мясцін Беларусі падтрымліваюць нас сваёй творчасцю для дапамогі нашым дзеткам, бо яны праходзяць лячэнне за мяжой, якое каштуе вялікіх грошай.

У Варшаве ёсць Цэнтр інтэнсіўнай тэрапіі OLINEK, там вельмі эфектыўна лечаць такіх дзяцей. На жаль, усе свае фінансавыя сродкі нашы сем'і ўжо вычарпалі, таму мы вымушаныя звяртацца да людзей па дапамогу.

Такі кірмаш дазваляе набыць не толькі нейкую рэч, але і зрабіць добрую справу. А заадно мы хочам звярнуць увагу людзей на праблемы такіх дзяцей, бо шмат сем'яў, у каго ёсць падобныя праблемы, баяцца грамадскай думкі. Маўляў, у мяне такое дзіця, як на мяне паглядзяць... Насамрэч, шмат хто коса глядзіць. А мы хочам паказаць, што гэтыя дзеці нічым не адрозніваюцца ад іншых... Ну так, яны крыху асаблівая, але ж гэта дзеці і за іх трэба змагацца і паказаць іншым бацькам, што гэта вырашальная праблема.

Не трэба пра гэта баяцца гаварыць, гэта ж дзіця, яго можна лячыць, можна адаптаваць, можна кудысьці выходзіць з ім, мець зносіны з іншымі мамамі, іншымі людзьмі. Адным словам, мы хочам прыцягнуць увагу грамадскасці да такой праблемы, бо шмат якія бацькі сядзяць дома і баяцца падзяліцца з кімсьці сваёй бядой.

А мы хочам паказаць, што гэта зусім не бяда і праблема, з гэтым можна і трэба шчасліва жыць.

**– Як даўно вы сутыкнуліся з гэтай праблемай?**

**Тамара Зубко:**

– Майму дзіцяці два гады і тры месяцы, мы ездзім ужо за мяжу больш за год.

**Рыта Шылей:**

– Сафіі ў жніўні будзе чатыры гады, і мы ўжо больш за два з паловай гады лечымся за мяжой. Мы выкарыстоўваем некаторыя і беларускія медычныя рэсурсы, але пакуль, на жаль, па лячэнні нашай хваробы – ДЦП – замежжа больш паспяховае па сваіх метадах і выніках. І калі ты бачыш, што дзіця аднаўляецца, то ты гатовы заплаціць любыя грошы, каб туды паехаць.

Мы выказваем удзячнасць усім людзям, хто нас падтрымлівае ў нашым горадзе, у нашай краіне і не толькі. Нехта падтрымлівае нас сваімі вырабамі, хтосьці аказвае інфармацыйную падтрымку, нехта фінансавую, хтосьці падтрымлівае нас сваёй малітвай. За нас моляцца ў храмах розных канфесій. Мы ўсім вельмі ўдзячныя і ўпэўненыя, што толькі дзякуючы Богу мы ідзём гэтым шляхам. Шляхам, які, магчыма, ён для нас вызначыў.

**– Гэту ідэю дабрачыннага кірмашу вам хтосьці падказаў?**

**Рыта Шылей:**

– Гэта была наша ідэя, бо мы не можам апускаць рукі і нечага чакаць. Вядома, мы не можам паўнавартасна працаваць, мы не можам вярнуцца на свае ранейшыя пасады, бо вымушаныя даглядаць сваіх дзяцей. Мы мусім шукаць фінансавыя сродкі і таму ў нас узнікла такая ідэя. Мы звярнуліся па дапамогу.

**Тамара Зубко:**

– І вельмі шмат людзей адгукнулася. Мы нават не чакалі, думалі, пару чалавек адгукнецца і ўсё. Але шмат людзей дапамагае, прычым з усёй Беларусі, многіх мы нават не ведаем. Гэта былі знаёмыя знаёмых. Нехта перадаваў нам свае вырабы праз пошту, хтосьці праз знаёмых. І вось гэта ідэя нам самім спадабалася, першы досвед мы атрымалі і вырашылі развіваць далей.

**– Ці ўдаецца зарабіць на кірмашы на сродкі для лячэння?**

**Рыта Шылей:**

– Гэта ў нас яшчэ другі такі кірмаш. Першы прайшоў у Мосары, калі мы былі на фэсце святога Яна. Вельмі прыемна, што шмат людзей адгукаецца, да нас падыходзіць. Нехта проста пытаецца, хтосьці нешта набывае, а некаторыя людзі проста пакідаюць нам свае ахвяраванні. Тут ніхто нікога не прымушае, галоўнае, наколькі вашае сэрца гатовае дапамагчы. Хтосьці проста праходзіць міма, але, магчыма, ён пра гэта падумае і ў яго памяці нешта застанецца. Мы лічым, гэта абавязкова трэба рабіць.

**Тамара Зубко:**

– Нават калі мы тут заробім і зусім невялікія грошы, гэта патрэбна рабіць.

**Рыта Шылей:**

– Гэта не камерцыйны кірмаш. Тут ёсць шанец і магчымасць кожнаму чалавеку адарвацца ад свецкай мітусні і звярнуць увагу на сябе, на сваё жыццё і на людзей, якія побач. Я лічу, што такі дабрачынны кірмаш – добрая магчымасць паглядзець, што навокал ёсць людзі, якім патрэбна дапамога, хоць самая малая. Бо любая кропля робіць мора. Мы гэта дакладна ведаем.

**– Ёсць надзея, што лячэнне ў Польшчы дапаможа вашым дзецям?**

**Тамара Зубко:**

– Надзея ёсць заўсёды. Бо калі ў маім выпадку трэба было верыць урачам, то я павінна была адмовіцца ад свайго дзіцяці адразу пасля родаў. Але я нікому не веру, я бачу вынік: дзіця жыве, расце, развіваецца. Так, яно вельмі цяжкае, але па прагнозах урачоў ніякіх зрухаў не варта было чакаць. Таму я нікога не слухаю.

Ведаеце, вера ў цуд, у сваіх дзяцей – гэта самае галоўнае. І вера ў Бога. Яна дае і нам сілы, і ім таксама. Дзесьці мы нечаму вучымся ад іх, мы ад іх зараджаемся – і ёсць вынік. Бо каб не было выніку, магчыма, нас бы так надоўга не хапіла.

Але вынік ёсць! Усё гэта прыносіць поспех: дзесьці значны, дзесьці не вельмі. Але, галоўнае, ён ёсць.

**Рыта Шылей:**

– Галоўнае – не здавацца.

**– Вера ў Бога дапамагае вам у вашай барацьбе за сваіх дзяцей?**

**Рыта Шылей:**

– Безумоўна! Тут, вядома, і чалавечы фактар дзейнічае: калі ў чалавека штосьці здарыцца, то ён адразу бяжыць да Бога. У нас заўсёды былі сем'і вернікаў, мы ходзім у храм, але сапраўднае адчуванне веры прыходзіць, калі ты сутыкаешся з нейкімі выпрабаваннямі. Я гэта адчула і ўпэўнілася: калі ты як чалавек раскісаеш і табе здаецца, што ўжо ўсё, толькі вера дапамагае вярнуцца да жыцця, каб зноў змагацца за сваіх дзяцей.

Бог нам вельмі дапамагае і блаславіў нашу справу, дае нам магчымасць і кірмашы такія праводзіць, і пасылае нам людзей, якія нам дапамагаюць. Гэта толькі дзякуючы Яму.

## Дарагія чытачы! Вы таксама можаце дапамагчы ў лячэнні Сафіі і Івана.

**Рэквізіты для дапамогі Сафіі Шылей:**



**Беларускія рублі** – транзітны рахунак 3819382309284 на дабрачынны рахунак №000006 у цэнтры банкаўскіх паслуг №230, бестэрміновы.

**Расійскія рублі** – транзітны рахунак 3819382311360 на дабрачынны рахунак №000012 у цэнтры банкаўскіх паслуг №230, бестэрміновы.

**Еўра** – транзітны рахунак 3819382311360 на дабрачынны рахунак №000002 у цэнтры банкаўскіх паслуг №230, бестэрміновы.

**Долары ЗША** – транзітны рахунак 3819382311360 на дабрачынны рахунак №000039 у цэнтры банкаўскіх паслуг №230, бестэрміновы.

**Можна проста пакласці грошы на тэлефон:** +375 33 612 04 44 (МТС)

**Рэквізіты для дапамогі Івану Зубко:**



**Карта Ашчаднага банка Расіі** (Сбербанк России) 4276 5500 3651 5933 да 05/19.

**Карта Беларусбанка** 9112 0000 1493 2962 да 02/20.

**Можна проста пакласці грошы на тэлефон:** +375 33 631 53 50 (МТС)

**электронны кашалёк EasyPay** 34340564.

**Беларускія рублі** – транзітны рахунак №3819382309284 на дабрачынны рахунак №000005 у цэнтры банкаўскіх паслуг №230, уладальнік рахунка – Зубко Кірыл Ігаравіч. УНП 300230580; МФО 150801648.

# Пры якіх умовах можна пабежмавацца без падрыхтоўкі?



*"Хвала Хрысту! Пры якіх умовах чалавек можа атрымаць сакрамант канфірмацыі без адпаведнай падрыхтоўкі?"*
*Алена*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD:**

– Паважаная Алена, дзякуй за пытанне! Здаецца, сёння многія людзі сутыкаюцца з праблемай недахопу часу, што ў сваю чаргу ўплывае таксама і на адносіны з Богам, і на духоўнае жыццё. Праблемы – гэта заданні, якія неабходна аналізаваць і вырашаць, як з дапамогай іншых людзей, так і самастойна, трываючы ў Божай прысутнасці.

Сярод сямі сакрамантаў Касцёла канфірмацыя, разам з хростам і Эўхарыстыяй, належыць да "сакрамантаў хрысціянскага ўтаямнічання". У лепшым разуменні іх сутнасці могуць дапамагчы дакументы Каталіцкага Касцёла, якія размешчаны на партале catholic.by. Касцёл вучыць, што "тры сакраманты хрысціянскага ўтаямнічання спалучающца паміж сабою так, каб давесці да поўнай сталасці Хрыстовых вернікаў, якія спаўняюць у свеце і ў Касцёле пасланніцтва, даручанае ўсяму хрысціянскаму народу".

Першы сакрамант хрысціянскага ўтаямнічання – гэта хрост, які Касцёл слушна называе дзвярыма да вечнага жыцця ды іншых сакрамантаў. Пра сутнасць хросту выдатна навучае Другі Ватыканскі Сабор: "вернікі далучаюцца праз хрост да Касцёла і пазначаныя незнішчальнай пячаткай, прызначаны да ўдзелу ў кульце хрысціянскай рэлігіі і, адроджаныя як дзеці Божыя, абавязаны вызнаваць перад людзьмі веру, якую атрымалі ад Бога праз пасярэдніцтва Касцёла". Менавіта праз хрост хрысціяне, атрымаўшы адпушчэнне ўсіх грахоў, вызваляюцца з улады цемры, становяцца новым стварэннем праз адраджэнне з вады і Духа Святога, а таксама называюцца і з'яўляюцца дзецьмі Божымі.

Ахрышчаныя запрашаюцца самім Богам да ўдзелу ў эўхарыстычным сходзе, дзе яны "спажываюць Цела Сына Чалавечага і п'юць Яго Кроў, каб атрымаць жыццё вечнае і выявіць адзінства народа Божага; а ахвяруючы сябе разам з Хрыстом, бяручы удзел ва ўсеагульнай ахвяры, якою з'яўляецца сама супольнасць адкупленых, складзеная ў ахвяру Богу Найвышэйшым Святаром. Яны просяць таксама, каб праз больш поўнае дзеянне Духа Святога ўвесь чалавечы род прыйшоў да адзінства сям'і Божай".

Быць хрысціянінам – гэта вялікая ласка, дар і годнасць! Чым больш чалавек спазнае таямніцу хрысціянскай веры, тым больш жадае дзякаваць Пану Богу і праслаўляць Яго.

Трэцім сакрамантам хрысціянскага ўтаямнічання ёсць Канфірмацыя (назва паходзіць ад лацінскага слова confirmatio – умацаванне, пацвярджэнне). Прыняцце гэтага сакраманту неабходнае дзеля дапаўнення ласкі святога хросту. Менавіта праз канфірмацыю вернікі, атрымаўшы моц Духа Святога, "больш дасканала прыпадабняюцца да Хрыста і ўмацоўваюцца, каб даваць сведчанне пра Яго і будаваць Яго цела ў веры і любові". Услед за "Катэхізісам Каталіцкага Касцёла" варта нагадаць пра вынікі сакраманту канфірмацыі:

- больш глыбокае ўкараненне ў Божым усынаўленні, дзякуючы якому вернік можа ўсклікаць "Абба Ойча" (Рым 8, 15);
- больш цеснае з'яднанне з Хрыстом;
- памнажэнне дароў Духа Святога;
- больш дасканалае з'яднанне з Касцёлам;
- удзяленне праўдзівым сведкам Хрыста асаблівай моцы Духа Святога дзеля пашырэння і абароны веры словам і справай, а таксама мужнага вызнавання Імя Хрыста і Ягонага Крыжа;
- удзяленне дароў Духа Святога: мудрасці, розуму, рады, мужнасці, умеласці, пабожнасці, боязі Божай.

Канфірмацыя, падобна як усе сакраманты, не паходзіць ад чалавека, але ад самога Бога, Які клапоціцца пра жыццё сваіх дзяцей і прагне іх учыніць паводле вобразу Свайго Сына здольнымі да любові на Яго падабенства. Моц Духа Святога, атрыманага ў сакраманце хрысціянскай сталасці (іншая назва сакраманту канфірмацыі), працінае ўсю чалавечую асобу і ўсё яе жыццё. Такім чынам, Сам Дух Святы дзейнічае праз верніка: Ён моліцца ў ім, прабачае, напаўняе надзеяй і суцяшэннем дзеля служэння братам у любові. Ён стварае камунію з Богам і паміж людзьмі. Ён таксама нясе радасць і робіць адкрытых на Яго дзеянне носьбітамі спакою. У сувязі з характарам і ўзнёсласцю канфірмацыі, вельмі важна, каб усе вернікі прынялі гэты сакрамант з вялікай пашанай і верай.

Згодна з практыкай Каталіцкага Касцёла, сакрамант канфірмацыі ўдзяляецца моладзі са старэйшых класаў сярэдняй школы. Сінод Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Пінскай і Віцебскай дыяцэзій вырашыў, што да сакраманту канфірмацыі можа прыступіць кандыдат, які мае 14 гадоў. Перад удзяленнем гэтага сакраманту ў парафіі павінна праводзіцца сістэматычная катэхізацыя, а таксама непасрэдная падрыхтоўка, якая заканчваецца экзаменам. Мэтаю падрыхтоўкі да канфірмацыі ёсць дапамога верніку ў паглыбленні сувязі з Хрыстом ды адкрыцці на супрацоўніцтва з Духам Святым, Яго дарамі і натхненнямі дзеля адказнага і поўнага хрысціянскага жыцця.

Па-за небяспекай смерці сакрамант канфірмацыі можа быць удзелены верніку, які адпаведна навучаны, здольны прыняць яго і можа аднавіць абяцанні хросту. Канферэнцыі Біскупаў, а таксама паасобныя дыяцэзіі ва ўсім свеце ствараюць інструкцыі, якія вызначаюць форму і час падрыхтоўкі да сакрамантаў. У некаторых краінах падрыхтоўка да канфірмацыі працягваецца тры гады, у іншых – два, аднак трэба памятаць, што не сам час найважнейшы, а якасць адносін чалавека з Богам і стан веры асобы.

У сакраманце хрысціянскай сталасці вернік намашчаецца святым духмяным алеем хрызма і такім чынам прыпадабняецца да Самога Хрыста, Які быў намашчаны Духам Святым (пар. Дз 10, 38). Алей ёсць знакам шчодрасці і радасці, ачышчае, аздараўляе, упрыгожвае і ўзмацняе. Хрысціянін праз намашчэнне ў сакраманце канфірмацыі моцаю Духа Святога становіцца прыемным Богу Хрыстовым водарам (пар. 2 Кар 2, 15).

На заканчэнне неабходна нагадаць, што ўся супольнасць парафіі, а асабліва бацькі і родныя маладых людзей (у некаторых выпадках таксама дарослых і старэйшых) пакліканыя адпаведным чынам паспрыяць сваім сёстрам і братам у веры ў належным хрысціянскім утаямнічанні, бо сакраманты – гэта не звычайны абрад або прыгожая ўрачыстасць, а жыццё з Богам, ад якога залежыць не толькі зямное існаванне, але і вечнасць чалавека.

## Які сэнс ахвяравання жыцця і пакут Богу за іншага чалавека?

*"У чым заключаецца сэнс ахвяравання Богу свайго жыцця і пакут за іншага чалавека?"*
*Людміла*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– Адказваючы на пытанне, неабходна раздзяліць дзве згаданыя рэчы: прысвячэнне жыцця Богу і пакуту за іншых.

Прысвячэнне жыцця Богу – гэта шлях следавання за Евангельскімі радамі чысціні, убоства і паслушэнства як спосаб дасканалага наследавання Збаўцы ў Яго дабрадзейнасцях, што праяўляецца ў Касцёле ў розных формах манаства. "Евангельскія рады ў іх разнастайнасці прапанаваныя кожнаму вучню Хрыста. Дасканаласць любові, да якой пакліканы ўсе вернікі, азначае для тых, хто свабодна прымае заклік да прысвячэння жыцця Богу, што яны абавязваюцца захоўваць цнатлівасць Божага Валадарства, жыць у беднасці і паслухмянасці. У выніку богапрысвечанае жыццё з'яўляецца адным са спосабаў спазнаць "больш глыбокае" пасвячэнне, якое, маючы корань у сакраманце хросту, цалкам прысвячае верніка Богу. У богапрысвечаным жыцці вернікі ставяць сабе за мэту як мага бліжэй ісці за Хрыстом, аддаваць сябе Богу, любячы Яго па-над усім, і працягваць удасканаленне сябе ў любові на службе Божага Валадарства, знамянуючы і абвяшчаючы ў Касцёле славу будучага свету" (ККК, 915-916).

"Праз статус прысвечаных Богу людзей Касцёл адкрывае свету Хрыста і паказвае, як дзівосна дзейнічае ў іх Дух Святы. Тыя, хто складаюць шлюбы, маюць, такім чынам, прызначэнне перш за ўсё сваім пасвячэннем. Але паколькі яны ў сілу самога свайго пасвячэння аддаюць сябе служэнню Касцёла, то іх абавязак – асаблівы ўдзел у місіянерскай працы" (ККК, 931).

Акрамя такога асаблівага шляху, кожны хрысціянін праз сакрамант хросту таксама з'яўляецца прысвечаным Богу. "Стаўшы чальцом Касцёла, ахрышчаны не належыць больш самому сабе (1 Кар. 6, 19), ён належыць Таму, Хто памёр і ўваскрос за нас" (ККК, 1269). "Той, хто верыць у Хрыста, становіцца сынам Божым. Гэтае ўсынаўленне перамяняе яго, дазваляючы яму наследаваць прыклад Хрыста. Яно дае яму здольнасць дзейнічаць справядліва і тварыць дабро. У саюзе са сваім Збаўцам вучань дасягае дасканаласці любові, г. зн. святасці" (ККК, 1709).

Што адносна пакуты за іншага чалавека, то яе можна разумець толькі ў кантэксце малітвы. Проста зносіць фізічныя ці маральныя пакуты за іншага не мае ніякага хрысціянскага зместу. Духоўная традыцыя хрысціянства ведае хадайніцкую малітву. У часы Касцёла хадайніцкая малітва хрысціян далучаецца да хадайніцтва Хрыста: яна з'яўляецца выражэннем зносінаў святых. У хадайніцкай малітве той, хто моліцца, "не пра сябе толькі клапоціцца, але і пра іншых" (Флп. 2, 4). Форма такой малітвы можа быць любая: як звычайныя малітвы ў намеры пэўнага чалавека, так і іншыя духоўныя практыкі, такія, як пост, удзел у пілігрымцы, дабрачыннасць.

# Ці можа дзяўчына ў пытанні ўзаемаадносін першая зрабіць крок?

*"Ці можа дзяўчына ў пытанні ўзаемаадносін першая зрабіць крок?"*
*Вераніка*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD:**

– Бог, Які стварыў чалавека паводле свайго вобразу і падабенства, надзяліў нас здольнасцю да любові ва ўсіх яе вымярэннях. Паколькі мы верым, што чалавечая любоў – гэта дар Бога, то павінны сваю будучыню, звязаную з выбарам жыццёвай дарогі, а таксама справу сужэнства давярыць Пану Богу. Касцёл часта заклікае вернікаў маліцца пра пакліканні да святарства, манаскага жыцця, аднак не забывае вучыць як моладзь, так і людзей сталага ўзросту пра важнасць і плённасць малітвы аб добрым мужу і жонцы.

Адказваючы на пастаўленае пытанне, асаблівым чынам хачу акцэнтаваць увагу менавіта на моцы малітвы будучых сужэнцаў за сябе ўзаемна. На малітве Бог адкрывае чалавеку сваю волю, дае адказы на розныя важныя пытанні і дапамагае развеяць сумневы ды вырашыць па-чалавечы складанае, а нават невырашальнае. Найважнейшы першы крок – гэта малітва...

У нашым культурным асяроддзі прынята, што менавіта хлопец робіць прапанову дзяўчыне выйсці замуж. Пры гэтым уручае сваёй каханай заручальны пярсцёнак. Гэты чароўны і рамантычны чын, часта здзейснены арыгінальна, у залежнасці ад фантазіі хлопца, належыць да вельмі важных і адказных крокаў да сужэнскага жыцця. Бо з моманту заручынаў маладыя людзі становяцца нарачонымі. Каханне нарачоных патрабуе перадусім сталасці. Папа Францішак у адной са сваіх катэхезаў сказаў, што нарачоныя пакліканы да сур'ёзнай, накіраванай да глыбіні, сумеснай і ангажаванай працы над любоўю. Ва ўзгаданым тэксце Святы Айцец тлумачыць, што ў гэтым часе нарачоныя паступова адкрываюць сябе адно аднаму: мужчына "вучыцца" жанчыне, пазнаючы гэтую канкрэтную жанчыну – сваю нарачоную, а жанчына ў сваю чаргу "вучыцца" мужчыну, пазнаючы гэтага канкрэтнага мужчыну, свайго нарачонага .

> **"...трэба шанаваць здаровую хрысціянскую і нацыянальную традыцыю, якая менавіта хлопцу прызначае права і заданне зрабіць дзяўчыне прапанову"**



Чын прапановы выйсці замуж патрабуе ад хлопца адпаведнага ўзроўню сталасці, а таксама рашучасці і мужнасці. Паколькі двое маладых ужо нейкі час сустракаюцца разам і ўзрастаюць у любові, то ўзнікае пытанне пра ролю дзяўчыны ў гэтым чыне. У сучасным свеце назіраюцца сацыяльна-культурныя і антрапалагічныя змены, якія кранаюць таксама фундаментальныя каштоўнасці, у тым ліку сутнасць чалавечай асобы. Небяспечным трэба лічыць усялякія імкненні змяніць натуральныя элементы сутнасці і тоеснасці чалавека. Бог стварыў чалавека як мужчыну і жанчыну, учыніў іх роўнымі ў годнасці, але і рознымі, надзяляючы іх уласцівымі здольнасцямі і заданнямі. У сувязі з гэтым трэба шанаваць здаровую хрысціянскую і нацыянальную традыцыю, якая менавіта хлопцу прызначае права і заданне зрабіць дзяўчыне прапанову. Гэта не азначае, што дзяўчына не мае магчымасці прычыніцца ці дапамагчы хлопцу ў прыняцці рашэння. Існуе шэраг спосабаў, якімі валодае дзяўчына ў гэтай справе. Сур'ёзныя адносіны паміж закаханымі павінны заўсёды будавацца на праўдзе, у духу шчырага дыялогу, з захаваннем павагі і асабовай годнасці.

У адносінах закаханых важную ролю адыгрываюць давер, адкрытасць і шчырасць. Без гэтых якасцей няма праўдзівага кахання, і ўсялякія сувязі пры іх адсутнасці раней ці пазней парвуцца. Неадʼемнай часткай адносінаў паміж закаханымі ёсць гатоўнасць да ахвяры дзеля каханай або каханага і да поўнага даравання самога сябе ў любові. Існуючы разам, маладыя людзі не толькі бліжэй пазнаюць сябе, захапляюцца сабою, але і моляцца: "Божа, ці яна (ці ён) сапраўды прызначаная мне Табою?". У гэтым кантэксце дзяўчына мае поўнае права размаўляць з хлопцам і пытацца пра яго намеры адносна яе. Вельмі важна таксама памятаць пра псіхалагічныя адрозненні паміж жанчынай і мужчынам: некаторыя знакі ці сугестыі могуць быць незаўважанымі або незразумелымі мужчынамі: ён не заўсёды дадумаецца, таму пра важнае лепш сказаць выразна і канкрэтна.

Варта яшчэ нагадаць пра важнасць чыстага сэрца ва ўзаемаадносінах. Святы Ян Павел II, звяртаючыся да маладых людзей, сказаў: "Толькі чыстае сэрца можа ўпоўні любіць Бога! Толькі чыстае сэрца можа ўпоўні здзейсніць вялікую справу любові, якой з'яўляецца сужэнства! Толькі чыстае сэрца можа ўпоўні служыць бліжняму. Не дазвольце, каб была знішчана ваша будучыня. Не дазвольце адабраць у сябе багацце любові. Абараняйце вашу вернасць, вернасць вашых будучых сем'яў, якія створыце ў любові Хрыста" .

Ва ўзаемаадносінах паміж закаханымі патрэбна чыстае сэрца і належнае ўспрыманне іншай асобы. Ніхто не мае права інструменталізаваць бліжняга і ніхто не можа пагадзіцца стаць інструментам у руках іншага. Каханне – гэта вельмі сур'ёзнае заданне, яго нельга замяніць проста захапленнем іншым чалавекам. Дзеля добрай падрыхтоўкі да сужэнства варта маліцца аб добрым мужу (жонцы) рознымі малітвамі, а таксама карыстацца ведамі і вопытам сваіх бацькоў (таксама бабулі і дзядулі), знаёмых ды раіцца з імі. Дапамагчы могуць святары і сёстры – не толькі размовай ці парадай, але і малітвай.

# "ДЗЕЦІ ПАЕДУЦЬ У ЛАГЕР" або "ДЗЕЦІ ПАЕДУЦЬ У ЛЕТНІК": як правільна па-беларуску?

**Мы часта чуем ці бачым напісанымі фразы кшталту *Мой сын на месяц паедзе ў лагер*; *Я буду дзве змены адпачываць у лагеры*; *Ёсць магчымасць папрацаваць важатай у лагеры* і г.д. Безумоўна, кожны разумее, што маецца на ўвазе. Але падобныя сказы з пункту гледжання культуры беларускага маўлення глядзяцца не вельмі дарэчна, можна сказаць, непрыгожа.**

**Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Так, у савецкія часы, напэўна, кожны вучань хоць бы адзін раз меў нагоду адпачыць у піянерскім лагеры. Цяпер прыметнік "піянерскі" ў такім кантэксце неўжываецца, але назоўнік *лагер* яшчэ досыць папулярны. Нядаўна намі было праведзенае адмысловае даследаванне на прадмет таго, якія асацыяцыі выклікае слова *лагер* у людзей рознага ўзросту, рознай адукацыі і рознага сацыяльнага статусу. Аказалася, што каля 30% апытаных укладаюць у гэты назоўнік пераважна негатыўны сэнс: *канцэнтрацыйны лагер, сталінскія часы, лагер для ўцекачоў*, і ўрэшце, *сацыялістычны лагер*. Асабліва ўражвае першая асацыяцыя. Таму сказ *Дзеці збіраюцца ў лагер* гучыць, па меншай меры, двухсэнсоўна.

Каб пазбавіцца ад рэштак адмоўных асацыяцый, варта выкарыстоўваць адметнае беларускае слова *летнік*. Гэты назоўнік даўно ўжываецца ў друку. Прасочым публіцыстычны дыскурс хаця б за апошнія гадоў пяцьшэсць: *У **летніку** – без чэргаў* (Звязда, 2.02.10); *Еду ў **летнік*** (Загаловак)... *Адно дзіця можа пабываць на працягу лета і ў круглаcутачным **летніку**, і ў дзённым... Аздараўленне і адпачынак у **летніку** любога кшталту – гэта актыўнае баўленне часу з пэўным комплексам запланаваных мерапрыемстваў* (Звязда, 26.05.11); *Імпартнаягародніна – пад забаронай у **летніках** і дзіцячых садках* (Звязда, 7.06.11). *Міністэрства адукацыі выступіла з прапановай дазволіць працаваць з дзецьмі ў аздараўленчых **летніках** студэнтам любых спецыяльнасцяў* (Звязда, 13.12.13); *Што неабходна ўмець дзіцяці, якое едзе ў **летнік**?* (Звязда, 11.06.15). Як бачна, слова *летнік* трывала замацавалася ў газетным радку.

Але гэты назоўнік можа мець і больш шырокае значэнне, паказваючы на месца правядзення пэўнага мерапрыемства ці акцыі, у якіх бярэ ўдзел моладзь: *Валанцёрскі **летнік** на Браслаўшчыне* ("Наша ніва", 21.06.10); *Валанцёрскія **летнікі*** (Наша ніва, 22.06.11). *На Гарадзеншчыне пры падтрымцы ЮНЕСКА адкрыўся лінгвістычны **летнік** для дзяцей, якія вывучаюць французскую мову* (Звязда, 4.06.13); *Далучайся да валанцёрскіх **летнікаў** па захаванні помнікаў* (Чырвоная змена, 27.03.14); *Больш за год яна жыла ў валанцёрскім экалагічным **летніку** ў Бельгіі* (Наша ніва, 17.09.14). *Як адкрыць беларускамоўны **летнік*** (Наша слова, 15.07.15). Можна меркаваць, што лексема *летнік* за апошні час істотна пашырыла свой сінтагматычны (спалучальны) патэнцыял і выкарыстоўваецца цяпер з яшчэ большай частотнасцю. І ўжо ў самім слове заключаная часавая характарыстыка, бо зразумела, што *летнік* і *лета* – назоўнікі аднакаранёвыя.

Заўважым, што слова *летнік* мае ў беларускай мове і іншыя значэнні: "аднагадовая дэкаратыўная садовая расліна"; "лёгкі летні пінжак";"дарога, па якой ездзяць летам". Але, бясспрэчна, асноўным трэба лічыць менавіта "месца летняга адпачынку дзяцей і моладзі". Якраз з такім значэннем гэты назоўнік пададзены ў "Слоўніку новых слоў беларускай мовы" В.Уласевіч і Н. Даўгулевіч (2009, с. 202).

Такім чынам, па-беларуску лепш казаць: *Мой сын на месяц паедзе ў **летнік***; *Я буду дзве змены адпачываць у **летніку***; *Ёсць магчымасць папрацаваць важатай у **летніку***. Гэта сапраўды гучыць густоўна, далікатна і ўпрыгожвае асобу чалавека, з чыіх вуснаў мы чуем падобныя словы.

# Ксёндз і лабрадоры

## Рэпартаж з Нясвіжа



**Тысячы турыстаў прыязджаюць у старажытны Нясвіж – рэзідэнцыю вядомага роду Радзівілаў, каб паглядзець на шматлікія помнікі мінуўшчыны. А я, даведаўшыся пра цікавае захапленне ксяндза Пятра Шарко, пробашча касцёла Божага Цела, вырашыла наведаць горад, каб пабачыць гадавальнік "Скарб Сэрца", у якім святар займаецца развядзеннем сабак-лабрадораў.**

**Маршрутка прыпыняецца каля самай старажытнай з ратуш, што захаваліся ў Беларусі. Выходжу і накіроўваюся ў бок касцёла.**

**Ірына Грэйць**

### Святар і вернікі

У святыні шмат людзей. Аб 11-ай распачынаецца Імша на польскай мове, якую праводзіць вікарый кс. Ігар Мутрук. Пасля малітвы ксёндз-пробашч агучвае аб'явы. Ён заахвочвае ўсіх парафіян прыйсці ў касцёл на канцэрт духоўнай вакальнай музыкі эпохі Барока. Шчаслівыя вернікі, думаецца мне. Не ў кожнай парафіі ладзяцца такія выступленні.

Дзеці і моладзь асабліва любяць ксяндза-пробашча Пятра. Гляджу, як святар падыходзіць да маленькага хлопчыка, пытаецца, як справы, размаўляе з ім. Дзіця расплываецца ва ўсмешцы.

Парафіянка Вікторыя з захапленнем распавядае мне: "Наш кс. Пётр вельмі добры. Моладзь яго любіць. Ён заўсёды арганізоўвае для нас шмат падарожжаў. Асабліва прыпамінаецца нядаўняя паездка ў гудагайскі санктуарый. Па дарозе заязджалі таксама ў розныя парафіі. Зараз наш ксёндз зрабіў плябанію, дзе мы разам з моладдзю збіраемся на катэхезы, гарбату, на прагляд фільмаў.

### Тытулаваныя выхаванцы святара

Пасля Імшы выходзім з ксяндзом Пятром з касцёла і ідзём паглядзець на незвычайнае святарскае захапленне. Адчыняюцца вароты гадавальніка "Скарб сэрца" і нас сустракае шэсць маленькіх, двухмесячных шчанюкоў-лабрадораў. Святар распавядае пра сваіх улюбёнцаў: "Аднаго з гэтых шчанят ужо замовілі. Ён паедзе ў Італію. А іншага забралі ў Амерыку. Яго падрыхтавалі па спецыяльнай праграме і зараз ён апякуецца дзіцём-аўтыстам. Ёсць відэа, дзе бачна, што сабака прыпыняе гэтае дзіця, каб яно не выбегла на дарогу. А ў Маскве таксама працуе з невідушчымі наш гадаванец".

Ксёндз Пётр займаецца сабакамі не толькі дзеля развядзення, але кожны раз імкнецца палепшыць іх пароду, характар і многае іншае. Ад прапановы выпусціць сабак яшчэ больш мне стала крыху страшна. Аднак пасля таго, як яны выбеглі і адразу пачалі гуляць са мною, страх знік.

Ксёндз Пётр расказвае, што вялізнага Вікінга цяпер хочуць узяць у адзін польскі знакаміты гадавальнік у арэнду, каб палепшыць пароду. Вікінг ужо мае тытул "Чэмпіён Беларусі". Ёсць тут і ўнучка трохразовага чэмпіёна свету Вара. Сярод вялікіх лабрадораў бегаў таксама маленечкі сабачка пароды бівер-ёркшырскі тэр'ер, а таксама джэк расэл-тэр'ер. Апошні сабачка вельмі любіць дзяцей. Святар гаворыць: "Мы думалі, якога сабаку яшчэ можна завесці… Я даведаўся, што стваральнікам пароды джэк расэл-тэр'ер лічыцца святар Джэк Расэл, па імені якога ён атрымаў сваю назву. Так сабака і трапіў у рукі да ксяндза. Дарэчы, аднаго сабачку гэтай пароды – Анфісу – можам аддаць у добрыя рукі. І калі хто зацікавіцца, можна напісаць мне на электронны адрас: sharkop@mail.ru".

### Ад хобі да прафесійнай дзейнасці

– Калі пачалося захапленне сабакамі? – пытаюся ў святара.

– Калі мяне прызначылі на працу ў Шэметава Мядзельскага раёна, я зацікавіўся сабакамі. Касцёл стаіць на водшыбе, найбліжэйшая вёска – на адлегласці 1,5 км. Было жудасна аднаму. Тады мой сябар прапанаваў падарыць на дзень нараджэння сабаку. Гэта быў цудоўны шчанюк лабрадора. З яго ўсё і пачалося. На жаль, ён загінуў. Адразу я набыў другога шчанюка, таксама пароды лабрадор. Зараз гэтай старэнькай Дусі, якая ў нас жыве, 14-ы год. Аднойчы ў яе была невялікая праблема з вушамі. Я паехаў у Маладзечна да дырэктара кіналагічнага клуба. Тады нас запрасілі на выставы. Далей – знаёмствы з іншымі гадавальнікамі. Так хобі стала больш сур'ёзнай і прафесійнай дзейнасцю. Цяпер некаторыя кінолагі пытаюцца пра парады, з замежнікамі перапісваемся, сябруем з "лабрадарыстамі" з розных краін.

Для таго, каб займацца душпастырскай дзейнасцю і развядзеннем сабак, вядома, патрэбна шмат часу. Таму ў справе кіналогіі святару вельмі дапамагае Надзея Іванаўна, ёй і належыць гэты гадавальнік.

Заходжу са святаром у дом. Пакой перапоўнены ўзнагародамі розных гадоў: медалямі, кубкамі, дыпломамі. З вялікай радасцю ксёндз Пётр расказвае і паказвае кожную з іх.

Пасля цікавых размоў і вясёлых гульняў з сабакамі прыходзіць час развітвацца. Гасцінны святар запрашае наведаць "Скарб сэрца" яшчэ раз, а я жадаю яму плённай працы і дасягнення поспехаў у развядзенні моцных, прыгожых і здаровых сабак.



# Жыццёвыя замалёўкі

### Не забівай

Аборт. Кароткае слова. Страшнае слова. Як стрэл. Як прысуд. Прысуд, які вынеслі свайму дзіцяці маці і бацька.

Лішніх дзяцей не бывае.

Давялося чакаць ля крамы пакуль выгрузяць тавары. П'яненатая жанчына пачала са мной размову:

– П'ю. І не ўтойваю гэтага. Балюча мне вельмі. Муж памёр. Дачка нядаўна памерла. Другая жыве за мяжой, прыязджае вельмі рэдка. Трэцяя дачка недалёка ад мяне, але не ладзіцца ў яе жыццё. Перажываю моцна праз яе. Трох дачок выгадавала. А магло ж у мяне быць пяцёра дзяцей. Магчыма, і сын быў бы. Раз зрабіла аборт, потым – яшчэ. Мала ўсяго было, цесна. Баялася, што ў мяне не хопіць сіл.

Пытаю:

– А што ж муж?

– А што муж?! Рашэнні ўсе прымала сама. Муж ніколі не ўмешваўся. Такі ён у мяне быў. А цяпер мучаюся. Вось быў бы сын…

### На цяперашні розум

У аўтобусе разгаварыліся са спадарожніцай пра жыццё, пра сям'і, пра дзяцей. Жанчына кажа:

– Дзеці – сапраўдны Божы дар. На жаль, многія гэта вельмі позна разумеюць. На цяперашні розум я б ніколі не зрабіла аборт. Але ж маладая была, не разумела. Давядзецца вечна гарэць у пекле за гэты грэх.

Я адказала:

– Бог міласэрны. Калі чалавек шчыра раскайваецца, то Бог прабачыць грахі.

Нечакана мая суразмоўца ўсміхнулася і сказала:

– На цяперашні розум я б так не зрабіла. Спадзяюся, што Госпад будзе міласэрны да мяне.

*Алена Пажога*

# Ці расказваеце Вы пра Хрыста?

**Папа Францішак часта заклікае хрысціян сведчыць пра Бога. А ці расказваеце Вы людзям пра Хрыста?**

*Ірына Грэйць*





**Ганна Журко:**

– Ці расказваю я людзям пра Хрыста? Напэўна, так. Бог падарыў мне цудоўную нагоду – каталіцкі скаўтынг. Калі апранаеш форму і ідзеш у ёй у касцёл па горадзе, сустракаеш шмат зацікаўленых позіркаў. Часта мінакі пытаюцца, да якой арганізацыі я належу. І менавіта тут пачынаецца сведчанне, менавіта са словаў "я каталічка, скаўтка". Сведчыць пра прысутнасць Бога і Ягоную Любоў вельмі проста. Часам дастаткова проста пакінуць навушнікі і цёмныя акуляры дома і выйсці з адкрытымі на патрэбы іншага вушамі і расплюшчанымі вачыма. Адказаць чалавеку на вуліцы, паказаць правільны кірунак, проста саступіць месца. Маё сведчанне – гэта жыццё "скаўцкім правам" штодня, якое вучыць, што скаўт служыць свайму бліжняму і дапамагае яму ў дарозе да Бога.



**Юлія Фралова:**

– Калісьці Бог знайшоў мяне на вуліцы праз маладую дзяўчыну Наталлю, якая падзялілася са мной Добрай Навіной. Мне было тады 19 гадоў, а Наталлі толькі 15, але Бог праз яе адвагу евангелізацыі моцна крануў маё сэрца. Тады распачалося маё навяртанне. Потым я трапіла ў супольнасць "Каштоўная Пярліна" руху "Святло – Жыццё" пры Чырвоным касцёле і ў хуткім часе разам з суполкай паехала на першы "Аазіс Новага Жыцця". У супольнасці, на Аазісе, мы вучыліся, як казаць людзям пра Хрыста і заўсёды евангелізавалі, калі вярталіся з рэкалекцый, у аўтобусах, ля касцёла, у шпіталях, школах, куды нас запрашалі. А таксама і ў штодзённым жыцці. Я ведала, што кожны дзень павінна хоць аднаму чалавеку сказаць, што Бог яго любіць. Так маё жыццё выглядае ўжо больш чым 20 гадоў. 14 гадоў я служу ў "Дыяконіі евангелізацыі". Мы падарожнічаем таксама на Захад і на Усход, каб падзяліцца Добрай Навіной з іншымі.





**Уладзіслаў Зарэцкі:** *(на фота – з вядучай sdb.by/news Кацярынай Мальцавай)*

– З'яўляючыся хрысціянінам і знаходзячыся з дзяцінства ў касцельнай супольнасці, я вельмі часта чую, што трэба распавядаць людзям пра Бога, несці праўду пра ўваскрослага Езуса ў свет. Але як гэта рабіць? Можна хадзіць па кватэрах і прапаноўваць паразмаўляць пра рэлігію, можна крычаць пра Бога на вуліцах, прыпыняць мінакоў і заклікаць іх да навяртання. Усе гэтыя ўчынкі патрабуюць вялікай адвагі і маюць вялікі рэзананс. Але да такіх рэчаў людзі ставяцца з боязззю і толькі круцяць пальцам ля скроні. Для мяне ж першым і дастаткова складаным крокам было не саромецца сваёй каталіцкасці ў сваім асяроддзі. Калі людзі ведаюць, што ты хрысціянін, то на табе ўжо вялікая адказнасць: трэба пацвярджаць веру сваімі ўчынкамі, гэта і будзе сапраўдным сведчаннем. На дадзены момант я з'яўляюся салезіянскім супраўнікам (свецкая галіна салезіянскай сям'і), дапамагаю салезіянам у выхаванні дзяцей і моладзі, бяру на сябе арганізацыю футбольных турніраў і некаторыя іншыя акцыі. Таксама рэалізую праект sdb.by/news, у якім праз відэаролікі мы распавядаем пра жыццё салезіянскай сям'і, праводзім відэакатэхезы.



**Віталь Шлег:**



– Напэўна, кожны чалавек разважаў наконт таго, як ён можа расказаць пра Бога. Я ніколі іншаму чалавеку не навязваў размову пра Хрыста, але проста гаварыў, што я католік-практык, які верыць і вызнае Хрыста. З псіхалагічнага боку трэба адчуваць зацікаўленасць твайго бліжняга ў размове, асабліва, калі ён цікавіцца Богам і ўсім, што звязана з верай. Але калі няма зацікаўленасці, а можа нават з'яўляецца агрэсія, то я лічу, што няма сэнсу сведчыць. Спадзяюся, што гэта не мае думкі і ўчынкі, але Бог так патрабуе ад мяне.

**Павел Слізевіч:**



– Я спрабую гаварыць сябрам пра Бога. Дакладней, не тое, што гаварыць, а проста я не хаваю гэтага ад іх. Але прапаведаваць камусьці – такім не займаюся. Не ведаю, як гэта правільна рабіць. Бо тая ж евангелізацыя на вуліцы, як мне падаецца, звычайна выклікае толькі адмоўныя пачуцці да хрысціянства. У незнаёмай кампаніі, на будучай працы, я, безумоўна, буду казаць, што з'яўляюся вернікам. Але, магчыма, давядзецца неяк выказацца, што на мяне могуць глянуць коса... Тады не змагу, хіба...



**Аліна Пацкевіч:**



– Пытанне гэтае падаецца мне даволі складаным. На першы погляд здаецца, што маецца на ўвазе менавіта наўпростым чынам расказваць людзям пра Хрыста, пра Евангелле, пра Божае слова. Такая пэўная евангелізацыя для малазнаёмых ці наўпрост для тым, хто далёка ад веры, ад хрысціянства. І задумалася: ці раблю я штосьці падобнае? Не... Але сведчанне можа быць у звычайных простых размовах і ўчынках, у штодзённых стасунках паміж тымі, хто з намі побач, на асабістым прыкладзе жыцця паводле хрысціянскіх каштоўнасцяў. Вельмі важна заўсёды разумець, наколькі чалавек гатовы і здольны ўспрымаць тое, што ты яму кажаш. Калі Бог пэўным чынам уплывае на нашае жыццё, варта пра гэта расказаць. Можна запрашаць знаёмых на хрысціянскія музычныя фэсты, на сустрэчы моладзі Тэзэ, у пілігрымкі. Я выбіраю гэты шлях – сведчыць пра Бога і ісці за Ім штодзённа.



## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

**Ці расказваеце Вы людзям пра Хрыста?**



- Сведчу пра Бога сваімі ўчынкамі ў сям'і, на працы, сярод знаёмых – 94 адказы;
- заўсёды расказваю пра Бога тым, хто не ведае пра Яго – 41 адказ;
- не гавару пра Хрыста. Вера – асабістая справа кожнага – 22 адказы;
- не ведаю, як казаць пра сваю веру – 15 адказаў;
- іншы варыянт у каментарах у сацыяльных сетках – 3 адказы;
- адчуваю страх і сорам, таму не сведчу пра Бога іншым – 2 адказы.

**Усяго: 177 адказаў**

**Фэйсбук:**
**Ала Грыгель:**

***"Створана 50 груп суседскіх па 5-16 чалавек, дзе чытаем Евангелле і разважаем, супольна молімся. Прыходзяць усе ахвотныя".***

## Герой ЧЕ-2016 паляк Куба (Блашчыкоўскі):

# Галоўнае для мяне – штодзённая Імша

**Гулец зборнай Польшчы прызнаўся, што яму дае сілы.**

У сацыяльных сетках з'явіліся дэматыватары з выказваннем паўабаронцы зборнай Польшчы па футболе, якая прабілася ў 1/4 фіналу турніру і 30 чэрвеня пазмагаецца за выхад у паўфінал з камандай Партугаліі.

У чвэрцьфінал палякі прайшлі ў тым ліку дзякуючы голу паўабаронцы Якуба Блашчыкоўскага. "Важнейшая за ўсё для мяне – штодзённая Эўхарыстыя і чытанне Божага слова. Часта ўсё звычайна, пачалавечы, мне нічога не хочацца. Але малітва дае мне сілу, і я стараюся не забываць пра яе", – карцінкі з такімі словамі вядомага футбаліста, які дапамагае перамагаць зборнай Польшчы, сталі распаўсюджваць у Фэйсбуку і Твітары.

Якуб Блашчыкоўскі (вядомы па мянушцы "Куба") нарадзіўся ў 1985 годзе ў вёсцы паблізу знакамітага польскага горада Чэнстахова. Калі Якубу было 10 гадоў, бацька забіў яго маці. Для хлопца гэта стала такім шокам, што ён перастаў наведваць футбольныя трэніроўкі і нават школу. Пасля смерці маці выхаваннем Якуба занялася яго бабуля, якая стала для яго фактычна другой маці. У 2011 годзе бацька Якуба выйшаў на волю, аднак футбаліст адмовіўся кантактаваць з ім. Тым не менш у траўні 2012 года, калі яго бацька памёр ва ўзросце 56 гадоў, ён прыйшоў на пахаванне.



У апошнія гады Якуб Блашчыкоўскі гуляў у дортмундскай "Барусіі" і "Фіярэнціне" (Фларэнцыя).

*katolik-gomel.by*

# Каляндар на жнівень

**6 жніўня – свята Перамянення Пана.**
Гэтае свята звязваюць з цудам, якое Езус Хрыстус здзейсніў напрыканцы Свайго зямнога шляху перад трыма апосталамі – Пятром, Якубам і Янам. Хрыстус прывёў Сваіх вучняў на гару Табор і адкрыў, што Яму належыць пакутаваць за людзей, памерці на крыжы і ўваскрэснуць. Там Ён перамяніўся перад апосталамі: твар Яго зазззяў, а вопратка зрабілася асляпляльна белай. Два прарокі Старога Запавету – Майсей ды Ілля – з'явіліся Госпаду на гары і размаўлялі з Ім. А голас Бога Айца са светлага воблака сведчыў пра Боскасць Хрыста. Лічыцца, што на гары Табор Езус упершыню паказаў людзям сваю Боскую сутнасць. Вучні ўсвядомілі, што перад імі не проста прарок, але Сам Пан. Свята Перамянення Пана нагадвае вернікам на прыкладзе Езуса Хрыста пра неабходнасць духоўнага перамянення і ўдасканалення. Лічыцца таксама, што свята Перамянення Пана звязана са старазапаветным днём асвячэння пладоў. Так, на Усходзе ў пачатку жніўня выспяваюць злакі і вінаград, якія хрысціяне прыносяць у храм для блаславення.

**10 жніўня – успамін святога Лаўрэнція, святара і мучаніка.**
Паводле падання, Лаўрэнцій паходзіў з Іспаніі. Ён быў дыяканам і служыў пры св. Папу Сіксту II, з якім яго звязвалі блізкія сяброўскія адносіны. 6 жніўня 258 г. падчас пераследу цэзара Валяр'яна Папу і чацвярых яго дыяканаў, у тым ліку і Лаўрэнція, арыштавалі на набажэнстве ў рымскіх катакомбах Калікста. Папу ў той жа дзень адсеклі галаву (успамін св. Сікста II, Папы і мучаніка, адзначаецца 7 жніўня), а праз чатыры дні мучаніцкую смерць прыняў таксама і Лаўрэнцій: ён быў спалены жывым. Перад смерцю цэзар патрабаваў у яго выдаць багацці хрысціянаў, на што святы, паказваючы на жабракоў, сказаў: "Вось сапраўднае багацце Касцёла!" Цела святога Лаўрэнція спачывае ў базіліцы, што носіць яго імя і з'яўляецца адным з найважнейшых касцёлаў Рыма, а галава святога – адна з найкаштоўнейшых рэліквій хрысціянства – захоўваецца ў Ватыкане. Святога Лаўрэнція заўсёды ўшаноўвалі і на Захадзе, і на Усходзе, а ў Рыме ён лічыцца трэцім пасля святых апосталаў Пятра і Паўла ў іерархіі культу. Святы з'яўляецца апекуном пажарных, яго заступніцтва просяць пры хваробах скуры, а таксама ад пажараў і мукаў чысца.


Касцёл святога Лаўрэна ва Ушачах.

**14 жніўня – успамін св. Максімільяна Марыя Кольбэ.**
Святы Максімільян нарадзіўся 8 студзеня 1894 г. у Здуньскай Волі каля Лодзі (Польшча). Вучыўся ў Рыме, меў ступень доктара. У 1918 годзе атрымаў святарскія пасвячэнні ў ордэне францішканаў. З'яўляецца заснавальнікам апостальскага таварыства "Рыцарства Беззаганнай" і рэлігійнага часопіса "Рыцар Беззаганнай". У час акупацыі арыштаваны і вывезены ў канцлагер у Асвенціме. Там ахвяраваў сваё жыццё за бацьку адной сям'і. Памёр у камеры смерці ў ліпені 1941 г. Беатыфікаваны Папам Паўлам VI 17 кастрычніка 1971 г., а Папа Ян Павел II кананізаваў Максімільяна Марыя Кольбэ 10 кастрычніка 1982 г.

**15 жніўня – свята Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.**
У 1950 годзе Папа Пій XII асаблівым дэкрэтам афіцыйна прыняў дагмат аб цялесным Унебаўзяцці Маці Божай на неба. У гэтым дагмаце адлюстравалася вера, якой спрадвеку прытрымліваўся Касцёл. У дзень Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі існуе традыцыя ў знак падзякі прыносіць першыя плады новага ўраджаю. У гэты дзень для вернікаў з'яўляецца абавязковым наведванне св. Імшы.

**22 жніўня – урачыстасць Маці Божай Браслаўскай Валадаркі азёраў.**
Пра касцёл у Браславе ведаюць шматлікія вернікі не толькі Віцебскай дыяцэзіі, але і ўсёй Беларусі. Прычынай гэтаму служыць цудадзейны абраз Маці Божай Браслаўскай, які знаходзіцца ў галоўным алтары святыні. 22 жніўня 2009 года браслаўская парафія Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі перажыла велічную і значную падзею – каранацыю папскімі каронамі цудатворнага абраза Маці Божай Валадаркі азёраў. Штогод на ўрачыстасць Маці Божай Браслаўскай прыязджае вялікая колькасць вернікаў з усёй Беларусі, каб выказаць Ёй сваю падзяку і пашану.

**24 жніўня – успамін св. Барталамея, апостала.**

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!** Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Яніна Ермаковіч** *(Падсвілле)*, **Лія Мацюшонак** *(в. Прошкава)*, **Марына Мяцёлкіна** *(Рубяжэвічы)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дуніавічы)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Соф'я Мапара** *(Шаркаўшчына)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:
*Місевіч Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211800 г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## На жнівень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага і біскупскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**3 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Мікалай Ліпскі** *(Лучай)*, **кс. Шыман Фарайтэр OMI** *(Шуміліна)*, **кс. Аляксандр Пятровіч** *(Гродна)*;

**4 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*, **кс. Аляксандр Баклажэц** *(Навагрудак)*;

**5 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Тадэвуш Качан** *(Канвелішкі)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Юрый Жаўняровіч** *(Віцебск)*;

**6 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB**, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі;

**7 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Дуброўна)*, **кс. Андрэй Лазарэвіч**;

**8 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Валерый Быкоўскі** *(Эйсманты)*;

**9 жніўня** – імяніны адзначае **кс. Раман Шульц OP**;

**10 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Дзісна)*, **кс. Ян Раманчук**, **Станіслаў Скрыдалевіч** *(Воранава)*;

**11 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Марэк Пасют OFMCap** *(Докшыцы)*, **кс. Аляксандр Барыла** *(Вілейка)*, **кс. Аляксандр Махнач SChP** *(Шчучын)*; імяніны адзначае **а. Лех Баханэк OFMConv** *(Івянец)*;

**15 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Крыштаф Коц'ян OP** *(Віцебск)*, **кс. Павел Звяжынскі** *(Варняны)*; імяніны адзначае **кс. Сяргей Мігун OFMConv**;

**16 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Кшыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Шаркаўшчына)*, **кс. Генадзь Рэйшэль**, **кс. Алег Жураўскі SDB** *(Смаргонь)*; імяніны адзначае **кс. Алег Жураўскі SDB** *(Смаргонь)*;

**17 жніўня** – імяніны адзначае **кс. Яцэк Хутман** *(Камаі)*;

**18 жніўня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Дзісна)*, **кс. Валерый Марціноўскі** *(Люблін)* і **кс. Антон Лагунёнак** *(Канстанцінава)*;

**19 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Кірыл Бардонаў** *(Мінск)*, **кс. Юзаф Мельдзюк** *(Вішнева)*, **кс. Алег Дуль** *(Ваўкавыск)*;

**20 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ян Пузына** *(Ашмяны)*; імяніны адзначае **кс. Сабеслаў Тамаля OFM**;

**21 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*, **кс. Рычард-Пётр Перчак** *(Белагруда)*;

**24 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Люцыян Даброўскі SDB** *(Баруны)*; імяніны адзначае **кс. Натанаэль Войтала OFM**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Крыштаф Коц'ян OP** *(Віцебск)*, **кс. Ян Пузына** *(Ашмяны)*;

**25 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Казімір Мурава SDB** *(Жупраны)*; імяніны адзначае **кс. Людвік Станішэўскі** *(Гнезна)*;

**26 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Кулік** *(Дзеркаўшчына)*;

**27 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Тамаш Станзэцкі** *(Рагозніца)*;

**28 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Аляксандр Дулінец** *(Падсвілле)*, **кс. Ян Сарэла** *(Волпа)*, **кс. Дзяніс Шмыгін** *(Міжэрычы)*;

**29 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Вячаслаў Пялінак** *(Ідолта)*, **кс. Уладзімір Шкурынскі**; імяніны адзначае **кс. Ян Внароўскі** *(Адэльск)*;

**31 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала Марына Ткач*

# Святы Дамінік і дамінікане




**Безумоўна, кожнаму даводзілася, набываючы тую ці іншую рэч, бачыць на этыкетцы дату заснавання фірмы. Кампаніі з гонарам паведамляюць, што яны працуюць ужо 20, 40, 70, а можа, нават 100 гадоў.**

■ **а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін*

На візітках ці ў рэкламе можна прачытаць і пра меншыя юбілеі: кшталту "Мы 15 лет на рынке!" Цікава, а як бы мы, католікі, ды і іншыя людзі адрэагавалі на рэкламны банар айцоў-дамініканаў: "Мы ў бізнэсе з 1216 года!" або "800 лет на рынке религиозных услуг!"

800 гадоў – менавіта столькі існуе дамініканская супольнасць. 40 пакаленняў святароў і братоў, якія пайшлі і ідуць за св. Дамінікам, каб збаўляць людскія душы.

Досыць пашыраная памылковая думка, нібы дамініканскі ордэн з'яўляецца ордэнам інквізітараў. Не, гэта не так. Святы Дамінік згуртаваў вакол сябе адукаваных прапаведнікаў, якія мелі заданне праз абвяшчэнне Слова Божага вяртаць чалавека ў адзінства веры Касцёла. Ерась часта была наступствам неадукаванасці і цемрашальства. І менавіта таму браты св. Дамініка выказваюць вялікую прыхільнасць і пашану да адукацыі. Яны набываюць адукацыю самі і адукоўваюць іншых. Адукаванасць дамініканцаў стала лёсавырашальнай для вялікай колькасці людзей, якія траплялі пад суд інквізіцыі па даносах.

> **"...браты св. Дамініка выказваюць вялікую прыхільнасць і пашану да адукацыі"**

Першымі, каго св. Дамінік перараканаў вярнуцца да праўдзівай веры, сталі некалькі жанчын, якія пасля заснавалі жаночы дамініканскі кляштар. І па гэтай прычыне сёстры падкрэсліваюць сваё старшынство ў сям'і трох дамініканскіх супольнасцяў.

> **"Мала хто ведае, што дамінікане маюць адну з найстарэйшых дэмакратычных традыцый у Еўропе"**

Суперыёр кляштару выбіраецца братамі. Кандыдатам можа быць нават сабрат з іншага кляштара. Так, вышэйшая ўлада, напрыклад, правінцыял зацвярджае выбар, але ў ім не ўдзельнічае.

Сімваламордэназ'яўляецца бела-чорны сабака, часта з факелам у пашчы. Назва "дамінікане", безумоўна, паходзіцьадімязаснавальніка – св. Дамініка. Але слова на лаціне "dominicanes" падобнае да "domini canes", што азначае "сабакі Пана Бога" – заўсёды верныя сваёй службе! Бела-чорная поўсць – гэта колеры дамініканскага хабіту, а запалены факел – сімвал палымнелай Божай любові, якую абвяшчаюць браты.

На тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага і сённяшняй Беларусі было шмат дамініканскіх кляштараў і касцёлаў. Але навалу атэізму перажылі не ўсе. Адзін з тых, што захаваўся, гэта касцёл св. Юзафа ў Оршы, якім апякуюцца айцы-марыяне. А дамініканцаў – жывых і падобных па руплівасці да св. Дамініка – можна сустрэць у Віцебску ў касцёле св. Барбары.

# Гімн юбілейнаму Году міласэрнасці – 2016

**Словы Марыі Ючкавіч** **Музыка Ганны Шаколы**




2. Чуваць, прасіць, са шчырасцю маліцца
Мы будзем Тройцы вечнай ад душы!
У Святым Духу каб маглі зрадніцца
І каб маглі народы мірна жыць.

Чувай жа з намі, Маці Прасвятая,
Марыя – Дзева, барані дзяцей!
Хай душы чэрствыя хутчэй адтаюць,
Каб жыць у міры, не трацячы надзей.

Прыпеў.

3. Адчынім сэрцы мы для ласкі Божай,
Паклонімся мы Гостці святой.
Няхай да веры сёння прыйдзе кожны,
Няхай пануюць мір і супакой!

І заспяваюць гімн зямля і неба,
І зоркі ясныя ў начной цішы.
О Міласэрнасць Божая! Ты – хлебам,
Ты – ласкай навяртання для душы!

Прыпеў.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета "Каталіцкі Веснік"
вул. Савецкая, 1
211800
г. Глыбокае
Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч
Віктар Мар'янавіч
вул. Савецкая, 1
211800
г. Глыбокае
Віцебскай вобл.*

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

## Хвала Хрысту!



*Сардэчна віншуем **ксяндза Яўгена Міхайлава** з Днём нараджэння і гадавінай святарскіх пасвячэнняў! Жадаем Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Маці Божай, шмат сіл для працы, шчодрага плёну на ніве Пана і моцнага здароўя!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***



## Дзякуем і віншуем!



*25 ліпеня спаўняецца 15 гадоў святарства **ксяндза Віталя Гальца**. Хочам ад усяго сэрца падзякаваць нашаму былому святару за ахвярную працу, за шчырую малітву і адданасць цудоўнаму дару святарства!*

*Зараз ён далёка ад нас, але мы памятаем пра яго і сардэчна віншуем з 15-годдзем святарства. Жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, плёну ў нялёгкай працы. Няхай Добры Бог аддзячыць яму! А мы, былыя парафіяне, будзем падтрымліваць малітвай.*

***Вернікі дрысвяцкай парафіі святых Пятра і Паўла***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*7 ліпеня наш паважаны **ксёндз Аляксандр Півавар** святкуе дзень нараджэння. Жадаем яму моцнага здароўя, Божай ласкі і спрыяння ва ўсіх справах! Няхай Пан Бог дапамагае ў ажыццяўленні ўсіх планаў і задумак дзеля служэння Касцёлу і на карысць людзям!*

*Мы вельмі ўдзячныя нашаму святару за яго працу і адданасць Божай веры. Дзякуючы яго таленту і самаадданай працы на працягу трох гадоў наша капліца набыла велічны і прыгожы выгляд!*

***З удзячнасцю і павагай, вернікі парафіі Маці Божай Будслаўскай у Кардоне***

## Шчыра віншуем!

*Шчыра віншуем **ксяндза Аляксандра Півавара** з нагоды Дня нараджэння! Дасылаем букет найпрыгажэйшых пажаданняў: моцы Святога Духа, шчодрай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шмат сіл у кіраванні Божым людам і шчодрага плёну на Божай ніве! Нізка кланяемся і дзякуем нашаму былому вікарыю!*

***Аляксандр Сінкевіч, ад імя ўсіх вернікаў мёрскай парафіі імя Унебаўзяцця НМП і св. Язафата Кунцэвіча***



## Поздравляю!



*15 августа – день рождения **ксяндза Павла Звежинского**.*

*Уважаемый ксёндз Павел! Поздравляю Вас с днём рождения! Желаю Вам крепкого здоровья, долгих лет жизни, успехов в служении, добрых людей. Пусть Добрый Бог Вас бережёт, а Матерь Божья помогает во всём!*

*Я всегда помню о Вас и молюсь за Вас и Вашу маму!*

***Лилия Кучинская***

## Шаноўны ксёндз Зэнан!



*Сардэчна віншуем Вас з нагоды імянінаў (23 чэрвеня).*

*Дзякуем Пану Богу, што даў нам такога духоўнага настаўніка: шчырага, справядлівага, чулага, сціплага, сардэчнага. Любяць Вас і дзеці, і моладзь, і дарослыя, бо ўсіх нас Вы накіроўваеце па дарозе жыцця да Бога. Цяпло свайго сэрца Вы аддаяце людзям і асвятляеце наш зямны шлях.*

*Ад усго сэрца жадаем Вам, паважаны ксёндз Зэнан, сталай апекі святога Заступніка, шчодрых дароў Духа Святога, моцнага здароўя, светлага настрою, поспехаў! Няхай Добры Бог, Які паклікаў Вас да святарства, узнагародзіць і ўзмоцніць! Жадаем таксама, каб Ваша праца на Божай ніве прыносіла шчодры плён!*

***Вернікі парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Відзах***



## Шаноўны наш ксёндз Кшыштаф Мянкіна!



*З нагоды Вашых імянін ад усяго сэрца жадаем Вам шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Заступніка, усіх дароў Святога Духа, а таксама моцнага здароўя, душэўнага супакою і нястомнасці ў абвяшчэнні Евангелля словам і жыццём!*

***Аляксандр Сінкевіч, ад імя ўсіх вернікаў мёрскай парафіі імя Унебаўзяцця НМП і св. Язафата Кунцэвіча***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Са словамі шчырага прывітання, сардэчнага віншавання, вялікай удзячнасці і з нагоды важных дат у жыцці шаноўных святароў, якія служылі ў нашай парафіі і зараз прыязджаюць да нас, звяртаемся мы, вернікі чашніцкага касцёла.*

*6 ліпеня – гадавіна святарскага пасвячэння **ксяндза Аляксандра Барана**;*

*7 ліпеня – дзень нараджэння **ксяндза Аляксандра Півавара**;*

*10 ліпеня – імяніны **ксяндза Віталя Маргунова**;*

*25 ліпеня – гадавіна святарскага пасвячэння **ксяндза Аляксандра Грыцкевіча**;*

*28 ліпеня – дзень нараджэння **ксяндза Анджэя Бульчака**.*

*Жадаем каб ваш святарскі шлях быў доўгім і шчаслівым, каб як мага больш людскіх сэрцаў прыцягвалася да Касцёла! Хай Добры і Міласэрны Бог блаславіць на новыя справы ў імя высакароднага служэння Хрысту і Касцёлу, адорыць сваімі ласкамі і няспынна аберагае ў штодзённым служэнні людзям! Шмат сіл, радасці і сонечнага настрою вам!*

*Няхай святло Божай ласкі заўсёды будзе з вамі!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Перамянення Панскага, г. Чашнікі***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*16 ліпеня пятую гадавіну свайго душпастырскага служэння адзначае наш шаноўны **ксёндз-пробашч Генадзь Ляўкоў**. Ад усяго сэрца віншуем яго з гэтай нагоды і жадаем здароўя і сіл для пашырэння Божага Валадарства на зямлі, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Евангелля, а таксама апекі Маці Божай Анёльскай! Няхай Найсвяцейшая Маці ахінае ксяндза Генадзя цеплынёй свайго сэрца, ласкавасцю і дабрынёй! Няхай Пан Бог заўсёды адорвае яго сваім бласлаўленнем, моцай і стойкасцю, і пасылае на яго шляху добрых і зычлівых людзей! Няхай Святы Дух асвячае гэты шлях, па якім мы разам з ім ідзём, узносячы малітвы, веру, надзею і любоў да Бога! Няхай яго святы Заступнік заўсёды будзе побач, штодзённа апякуецца і ўзносіць свае малітвы за яго да Божага трона! Няхай Божае слова, якое ксёндз Генадзь засявае ў людскія сэрцы, прыносіць шчодры плён, а дабрыня і зычлівасць, якія ён дорыць людзям, хай заўсёды да яго вяртаюцца!*

***З любоўю, павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Маці Божай Анёльскай (вёска Мяжаны, Браслаўскі раён)***

## Віншуем і дзякуем!

*Другі год мы маем вялікую радасць маліцца і працаваць з любімым **ксяндзом Генадзем Ляўковым**. Гэта таленавіты пастыр з моцнай верай і надзеяй. Любіць жыццё і людзей. Ксёндз Генадзь уважлівы да кожнага парафіяніна. Ён блізкі і родны для ўсіх. Святар адкрывае нам праўду веры, а сам з'яўляецца ўзорам служэння Богу і людзям.*

*Распачаты вялікі рамонт прыкасцельнай тэрыторыі. З кожным днём наша святыня прыгажэе. Нізкі паклон ксяндзу Генадзю за цудоўныя словы навукі, за выхаванне моладзі, за клопаты пра жывых і памерлых, за творчую працу!*

*16 ліпеня ў нашага пробашча – 5-я гадавіна святарства. Мы молімся да Пана Бога, каб Ён адарыў нашага пастыра моцным здароўем душы і цела, каб ксёндз Генадзь яшчэ многія гады працаваў на хвалу Пана і вёў нас нялёгкім шляхам у Нябеснае валадарства!*

***Парафіяне дрысвяцкай парафіі святых Пятра і Паўла, Браслаўскі р-н***



## Хвала Хрысту!



*Шчыра віншуем з нагоды дня імянінаў (24 чэрвеня) **ксяндза Івана Кароткіна**. Жадаем моцнага здароўя, аптымізму і плёну ў працы на доўгія гады святарскага служэння.*

*Няхай Усемагутны Бог дапамагае Вам, а Маці Божая хай абараняе Вас і падтрымлівае, а мы будзем маліцца за Вас.*

***З павагай і ўдзячнасцю парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***



# У вёсцы Лебедзева прайшлі першыя дыяцэзіяльныя рэкалекцыі для ўдзельнікаў апостальскага руху “Маргарытка”

**Шмат Божых ласкаў атрымалі ўдзельнікі апостальскага руху “Маргарытка”, якія на працягу трох дзён, з 17 па 19 чэрвеня, духоўна ядналіся разам падчас рэкалекцый у вёсцы Лебедзева Маладзечанскага раёна.**

**Анастасія-Алена Блусянкова**, *парафія святых Сымона і Алены, Мінск;*
**Данута Будзько**, *парафія Узвышэння Святога Крыжа, Вілейка*

На рэкалекцыі прыбылі вернікі з мясцовай парафіі Сэрца Езуса, а таксама з Рубяжэвіч, Вілейкі, Мінска, Маладзечна і са Свіры.

Духоўныя практыкаванні праводзіў ксёндз Юзаф Сярпейка, вікарый парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Вілейцы.

Рэкалекцыі праходзілі ў парафіяльным доме. Распачаліся яны ў пятніцу вечарам супольнай вячэрай, падчас якой вернікі знаёміліся паміж сабою і дзяліліся сведчаннямі, як даўно ўдзельнічаюць у апостальскім руху “Маргарытка”, сутнасцю якога з’яўляецца малітва за святароў альбо законных сясцёр.

Маргарытка – белая кветка, яе сем пялёсткаў сімвалізуюць сем дзён тыдня. Сем асобаў, якія ўваходзяць у апостальскі рух “Маргарытка”, ахвяруюць па адным дні ў тыдзень за святара альбо манахіню, выбіраюць форму малітвы, якая ім найбольш адпавядае, і моляцца за духоўную асобу ўсё жыццё.

На першай канферэнцыі ксёндз Юзаф заўважыў: “Той, хто моліцца за святара, прымае ўдзел у ягоным святарстве і тых Божых ласках, якія святар атрымлівае”. Тым самым вернікі глыбей зразумелі важнасць і неабходнасць малітвы за святароў, змаглі ацаніць сэнс ахвяравання сваіх цярпенняў у інтэнцыях святароў. Паколькі праз удзел у паўнаце святарства Езуса Хрыста, паводле рэкалекцыяніста, свецкія людзі таксама атрымліваюць Божае благаславенне.

Другая канферэнцыя мела на мэце аздараўленне пачуццяў і была спалучана з кантэмпляцыйнай малітвай Адарацыі Найсвяцейшага Сакрамантa. Удзельнікі рэкалекцый мелі магчымасць прыступіць да споведзі, памаліцца ў цішыні, пачытаць Божае слова.

Падчас трэцяй канферэнцыі ксёндз Юзаф Сярпейка звярнуў увагу прысутных, чаму так важна маліцца Псальмамі і чаму ўсе духоўныя асобы абавязаны маліцца брэвіярый. Рэкалекцыяніст таксама падкрэсліў, што свецкія вернікі не абавязаны штодзённа чытаць брэвіярый, але заахвоціў да такой формы малітвы, таму што малітва Псальмамі мае моц экзарцызму: абараняе чалавека ад уздзеяння злога духу.

Важным момантам рэкалекцый сталі штодзённая святая Імша – бескрывавая ахвяра Езуса Хрыста, калі вернікі, сабраныя вакол алтара, слухалі і прымалі сэрцам Божае слова, ядналіся ў святой Камуніі з Езусам Эўхарыстычным, а таксама супольная малітва аб святасці святароў, якую ахвяравалі перад Найсвяцейшым Сакрамантам у капліцы парафіяльнага дома.

А 15-й гадзіне маліліся Вяночкам да Божай міласэрнасці, перапрашаючы за грахі ўсяго свету і выпрошваючы патрэбныя Божыя ласкі для святароў, за якіх ахвяраваліся ў апостальскім руху “Маргарытка”.

Аб’яднала сэрцы ўсіх удзельнікаў рэкалекцый Найсвяцейшая Панна Марыя, калі ўсе разам маліліся на святым Ружанцы. Узначальваў ружанцовую малітву ксёндз Юзаф, а вернікі па чарзе маліліся “Вітай, Марыя”. Падчас малітвы панавала атмасфера духоўнай радасці і сапраўднага Божага супакою.

“Маці Божая, Каралева Апосталаў, Тваёй апецы даручаем усіх святароў свету!”

Шмат было вольнага часу, а гэта цудоўная нагода на духоўныя размовы паміж сабою і са святаром-рэкалекцыяністам.

Канферэнцыі і малітвы таксама вельмі добра спалучаліся з актыўным адпачынкам: на другі дзень рэкалекцый быў “зялёны вечар”. Вернікі сабраліся каля парафіяльнага дома на вуліцы на сумесную вячэру, ахвотныя гулялі ў валейбол, танцавалі, фатаграфаваліся. Потым усе аб’ядналіся ў “кола добрых сэрцаў” на свежым паветры на траве і кожны даваў сведчанне, дзяліўся сваімі духоўнымі досведамі: у якіх “Маргарытках” удзельнічае, калі ўтварылася “Маргарытка” і чаму менавіта за таго ці іншага канкрэтнага святара вырашыў маліцца. Прысутныя пачулі шмат цікавых сведчанняў. Напрыканцы супольна памаліліся “Апэль” да Маці Божай і атрымалі святарскае благаславенне.

На трэці дзень, у нядзелю, удзельнікі рэкалекцый духоўна перажылі святую Імшу ў парафіяльным касцёле Сэрца Езуса, дзе адчулі сапраўдны цёплы дотык Божай міласэрнасці: на вачах у многіх былі слёзы, але гэта слёзы радасці, адчування прысутнасці Духа Святога.

Падчас рэкалекцый панавала духоўнае адзінства, сэрцы перапаўняліся сапраўдным Божым супакоем, нягледзячы нават на тое, што на самым пачатку, з вечара ў пятніцу, у парафіяльным доме патухла электрычнае святло па прычыне моцнага, шквалістага ветру, перуна і маланак. Але такое надвор’е не азмрочыла настрою, таму што з намі быў Езус – Сапраўднае Святло, якое раз’ясняе цемру! Дарэчы, на другі дзень рэкалекцый, якраз у час Божай міласэрнасці, электрычнае святло з’явілася! Гэта таксама цудоўны Божы Провід.

Але ж час ляціць так хутка... І ўсё добрае калі-небудзь завяршаецца. На трэці дзень давялося развітвацца, хоць так не хацелася ад’язджаць дадому, таму што Найсвяцейшае Сэрца Езуса з’яднала ўсе нашыя сэрцы ў адзінае вялікае сэрца і мы сталі як адна духоўная сям’я.

Мы вельмі ўдзячныя Богу за ўсе дары і ласкі, якія атрымалі падчас рэкалекцый. Дзякуем таксама ксяндзу Юзафу за цудоўныя тры дні, напоўненыя малітваю, добрым настроем, новымі знаёмствамі. Дзякуем за яго шчодрасць і шчырасць, за адказнасць у працы і малітве, за адкрытасць і дабрыню яго сэрца, за любоў і павагу да людзей. Дзякуем, што ён не пашкадаваў свайго вольнага часу: тры дні ўласнага адпачынку правёў разам з намі. Дзякуем за тое, што яму ўдалося з Божаю дапамогаю сабраць такі Божы статак вакол алтара Хрыста-Збаўцы.

Жадаем, каб добры Бог адарыў ксяндза Юзафа моцным здароўем, даў усе патрэбныя ласкі для далейшага плённага святарскага шляху, а ласкавая заступніца – Божая Маці – атуляла яго сваёю апекаю і заўсёды падтрымлівала ва ўсіх задумах і пачынаннях!

Мы сапраўды зразумелі, што святарскае служэнне – вялікая адказнасць.

*Служэнне святара – вялікая адказнасць:*
*Супольна з Богам крочыць па жыцці.*
*І часам пасвіць Божы статак цяжка,*
*Але святар павінен з годнасцю ісці...*

*Ісці наперад цяжкасцям, турботам,*
*Ісці, калі пануе ў сэрцы неспакой,*
*Заўжды наперад крочыць разам з Богам,*
*Надзею запаліць у велічы святой!*

*І ажывіць надзеяй тыя сэрцы,*
*Што так шукаюць Бога кожны дзень.*
*Тады Любоў бязмежная пральецца*
*І кожны атрымае, што хацеў.*

*Бо мэтаю галоўнай ёсць збаўленне –*
*У асвячальнай Божай ласцы жыць,*
*Таму Эўхарыстычную ахвяру*
*Сам Езус даручае Вам служыць!*

*І кожная Імша святая –*
*Вялікі скарб для ацалення душ.*
*Служы з адказнасцю, бо Езус заклікае:*
*Сумленне грэшнікаў хутчэй узруш!*

*Бо менавіта сёння – час збаўлення,*
*Час міласэрнасці, паўстання з усіх грахоў!*
*Хай Дух Святы напоўніць Ваша сэрца,*
*Душу асветліць радасць і Любоў!*

Мы спадзяёмся і верым, што рэкалекцыі для апостальскага руху “Маргарытка” на хвалу Божую будуць праводзіцца штогод, бо сапраўды гэта спрыяе духоўнаму развіццю, умацаванню веры, узрастанню ў любові да Бога і бліжніх, аднаўленню надзеі ў сэрцах людзей, якія так шукаюць Бога кожны дзень.






## Якім бывае сябар?

У прыведзеных словах пераблытаны літары. Запішы словы правільна. З іх выберы тыя рысы характару, якія павінен мець сапраўдны сябар?

РЫДОБ ЛЫЗ ЛІВЫКАРЫС НЫНАДЗЕЙ ЛІВЫКЛАПАТ ЛІВЫХЛУС

## Давядайся, што гаворыць Біблія пра сяброўства?

Пад кожнай лічбай размешчана літара.Па парадку, пачынаючы ад лічбы 1 (літара Н), выпішы літары. Выпісаўшы ўсе літары атрымаеш слова, якога не хапае ў выслоўі. Як ты разумееш сэнс гэтага выслоўя?

***Сябар любіць ва ўсякі час і, як брат, явіцца ў_________________. (Выслоўі 17, 17).***

| 8 | 6 | 4 | 5 | 3 | 7 | 1 | 2 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| І | С | Ч | А | Ш | Ц | Н | Я |

## Суцеш дзяўчынку, якая плача

Дзяўчынка згубіла любімую цацку. Знайдзі да яе дарогу, каб суцешыць і падзяліцца з ёй сваёй любімай цацкай.



## Злучы словы і атрымай прыказкі

Злучы стрэлкамі па сэнсе словы з левага і з правага боку. Выразна прачытай, што атрымалася.Разам з бацькамі пастарайся патлумачыць сэнс кожнай прыказкі.

| | |
|---|---|
| **Каля поўнай** | **не бяда, як сяброў грамада.** |
| **Няма грошай -** | **пазнаеш у няшчасці.** |
| **Прыяцеля** | **што печ без дроў.** |
| **Чалавек без сяброў,** | **міскі шмат сяброў.** |

## Хто твой сябар?

Як завуць тваіх сяброў? На кожнай ручцы напішы імя аднаго свайго сябра



## ПАЗНАВАЙКА віншуе пераможцаў конкурса "КАНІКУЛЫ З БОГАМ»



БАЛДЫРОЎ Андрэй, 11 год
г. Касцюковічы



КЛІМОВІЧ Яна, 10 год
д. Ляскоўка



ШАХАНАВА Вікторыя, 7 год
г. Касцюковічы



ГЛАДКАЯ
Вольга, 4«Б»клас
г. Ашмяны


ШАХАНАВА Віялета, 12 год
г. Касцюковічы


БУДКІНА КСЕНІЯ, 9 год
г. Глыбокае

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Грэйць***

# Фэст у Дрысвятах

**29 чэрвеня на нашай намоленай дрысвяцкай зямлі сабраліся вернікі парафіі і госці, каб разам пакланіцца Богу. У гэты сонечны святочны дзень нашу парафію святых Пятра і Паўла наведаў ардынарый Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.**

Святары нашага дэканата, моладзь і дзеці сустрэлі высокага госця і з урачыстай працэсіяй зайшлі ў святыню. Тут біскуп павіншаваў усіх прысутных са святам, выказаў шмат самых сардэчных пажаданняў.

Святую Імшу цэлебраваў біскуп Алег Буткевіч і пробашч парафіі Генадзь Ляўкоў.

У касцёле было шматлюдна, усе засяроджана слухалі казанне. Біскуп гаварыў пра тое, што сапраўдная вера ў Бога творыць цуды, аздараўляе, ацаляе людзей, але нельга блытаць цуды ад Бога і ад д'ябла. Чорныя сілы таксама могуць "дапамагаць" чалавеку, але за такую дапамогу давядзецца заплаціць вельмі вялікі кошт здароўем блізкіх, сваім жыццём і душой. Толькі Бог, як сапраўдны Ойча, захавае і абароніць, дапаможа пераадолець жыццёвыя цяжкасці. Гэта адбудзецца толькі тады, калі чалавек шчыра паверыць і паставіць Бога на галоўнае месца ў сваім жыцці.

Словы біскупа былі простыя і даступныя, яны пранікалі ў душу, прымушалі задумацца аб сэнсе сапраўднага хрысціянскага жыцця.





Падчас святой Імшы іерарх удзяліў сакрамант бежмавання моладзі нашай парафіі. Дзякуючы паслузе ксяндзоў Альфрэда Пяхоты, Андрэя Бочара, Эдварда Ахрамовіча была магчымасць прыступіць да сакраманту споведзі і даручыць свае просьбы і надзеі Езусу Хрысту ў Найсвяцейшым Сакраманце.

Традыцыйна на заканчэнне набажэнства адбылася ўрачыстая працэсія вакол касцёла, якая завяршылася ў святыні спевам "Цябе, Бога, праслаўляем".

Але на гэтым свята не завяршылася. Дзякуючы ксяндзу Генадзю парафіяне і госці змаглі пачаставацца юшкай, мноствам слодычаў і нават запечанымі парасятамі. Каля касцёла было арганізавана выступленне мясцовага гурта "Вярба". Музыка і спевы яшчэ больш узнялі святочны настрой.

Разам з нашай парафіяльнай супольнасцю ўдзел у свяце прынялі бацькі ксяндза Генадзя. Шчыра дзякуем ім за цудоўнага сына-святара і за дапамогу.

Шаноўны біскуп Алег Буткевіч, дзякуем Вам за самаадданую працу, за добразычлівасць, ветлівую ўсмешку, за добрыя словы, змястоўнае казанне. Дзякуем бацькам паважанага біскупа Алега за выхаванне мудрага і чулага сына-святара.

Выказваем сардэчную падзяку нашаму шаноўнаму пробашчу Генадзю Ляўкову за арганізацыю ўрачыстасці. Мы вельмі рады, што амаль два гады ў парафіі працуе ксёндз Генадзь і дзякуем Пану Богу за яго.

***Удзячныя парафіяне дрысвяцкага касцёла св. Пятра і Паўла, Браслаўскі р-н***

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**24 ліпеня 2016 г.**

***Лк 11, 1-13***

"Ойча наш" з'яўляецца прыкладам і ўзорам малітвы. Мы звяртаемся ў ёй да Бога не ад сябе толькі, але гаворым "Мы", памятаючы, што належым да супольнасці Божых дзяцей. Асноўнай нашай мэтай пры адмаўленні гэтай малітвы ёсць праслаўленне Бога. Але мы таксама просім пра Яго ўладаранне і пра тое, каб выконвалася Яго воля. Мы прыносім Яму нашы часовыя праблемы. А яшчэ просім аб прабачэнні грахоў, аб дапамозе ў прабачэнні, аб абароне і падтрымцы ў барацьбе са злом.

Бог чуе нашы малітвы. Трэба толькі шчыра трываць на малітве і спадзявацца, што Ён нас не забудзе. У час малітвы трэба ачышчаць нашы жаданні: хацець таго, што трэба, і ўмець падпарадкаваць сваю волю Божай. Ён нас не пакрыўдзіць. Ён хоча, каб мы на малітве вучыліся таму, што важна, патрэбна і добра. Малітва – гэта школа духу. Найбольшым дарам Бога ёсць дар Святога Духа, Якога і трэба прасіць.

*– Ці малюся я?*

*– Якая мая малітва?*

*– Ці хачу я, каб Бог перамяняў маю малітву і вучыў мяне ёй?*

*– Ці падобная мая малітва да малітвы "Ойча наш": праслаўленне, прабачэнне, просьбы?*

*– Ці цаню малітву "Ойча наш"?*

*– Ці свядома малюся словамі гэтай малітвы?*

*– Ці шчыры я падчас малітвы?*

*– Ці шукаю ў час малітвы адказаў на праблемныя пытанні майго жыцця?*

*– Ці шукаю Божай волі?*

*– Ці прашу дароў Святога Духа?*

**31 ліпеня 2016 г.**

***Лк 12, 13-21***

Мы жывём не для таго, каб збіраць багацці. І наша жыццё не залежыць ад таго, якую маёмасць маем. Сапраўднае багацце тое, якое з'яўляецца такім у вачах Бога. Небяспека багацця або прагі да яго выяўляецца ў тым, што яно перашкаджае нам у выкананні Божай волі, у ахвярнасці і ў пошуку сапраўдных каштоўнасцей.

*– Ці не пераацэньваю вартасці матэрыяльных каштоўнасцей?*

*– Ці разумею, клапоцячыся пра матэрыяльныя патрэбы, што яны павінны спрыяць майму духоўнаму развіццю?*

*– Ці дапамагаю ўбогім?*

*– Ці шчыра зарабляю для сябе і сваіх блізкіх патрэбныя матэрыяльныя сродкі?*

*– Ці не растрачваю бязбожна маёмасць?*

*– Якія маю скарбы?*

**7 жніўня 2016 г.**

***Лк 12, 35-40***

У час Адвэнта разважаем пра канец свету і клічам да чування. Вось і зараз, у сярэдзіне лета, літургія прыгадвае нам пра абавязак чування. Трэба, каб мы былі заўсёды гатовыя да сустрэчы з Хрыстом. Трэба, каб Пан убачыў нас, калі прыйдзе наша апошняя хвіліна, гатовымі да сустрэчы з Ім. І хаця канікулы – час, калі можна расслабіцца, аднак гэта не азначае, што мы не павінны жыць паводле закону любові.

*– Ці прымаю я Цела Хрыста?*

*– Ці жыву ў ласцы асвячальнай?*

*– Ці выконваю сёння Божую волю?*

*– А можа, я занадта "расслабіўся "і мне трэба паспавядацца?*

*– Ці ўмею з радасцю выконваць Божую волю?*

*– Ці ўмею для дабра свайго і іншых людзей разумна і згодна з Божай воляй адпачываць?*

*– Ці знаходжу час для малітвы, для разважання, на добрыя ўчынкі і пілігрымкі?*

**14 жніўня 2016 г.**

***Лк 12, 49-53***

Езус прыйшоў, каб прынесці агонь любові. Ён Сам яго распаліў сваёй Пасхай. Ён спаслаў Святога Духа, Які распаліў сэрцы вернікаў, каб разнеслі агонь Божай любові па свеце. Гэтая, поўная любові дзейнасць Бога не ўсім будзе даспадобы. Трэба спадзявацца, што калі мы за Хрыста і Яго справу любові, то можам сустрэцца з супраціўленнем нават з боку блізкіх людзей.

*– Ці саграваюся я ў агні Божай любові?*

*– Ці распальвае Святы Дух руплівасць майго сэрца?*

*– Ці дазваляю Богу перамяняць сябе?*

*– Ці нясу я агонь Божай любові ў свет?*

*– Ці сустракаюся з непаразуменнем праз веру ў Хрыста?*

*– Ці стаўлюся з цярпеннем, рашучасцю і мудрасцю да тых, хто не разумее маёй веры і навукі Хрыста?*

*– Ці малюся за іх?*

*– Ці будую супакой на зямлі праз прабачэнне, мудрасць і давер Богу?*

*Разважанні падрыхтаваў* ***кс. Павел Кнурэк***

*www. lyntupy.by*




# Праграма ўрачыстасцяў у гонар Маці Божай Валадаркі азёраў

**У Браславе ўрачыстасці Маці Божай Валадаркі азёраў пройдуць сёлета 19-20 жніўня пад дэвізам "З неспасцігальнай міласэрнасці Бога Я для вас – Маці".**

**Пятніца, 19 жніўня**

**18.00** – святая Імша з удзяленнем Сакраманту Бежмавання;
**19.30** – канцэрт духоўнай музыкі;
**20.30** – малітва праслаўлення, канферэнцыя;
**22.30** – набажэнствы (вернікі Усходняга абраду);
**23.30** – ружанцовая малітва, працэсія са свечкамі.

**Субота, 20 жніўня**

**24.00** – святая Імша перад абразом Маці Божай;
**02.00** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
**03.00** — набажэнства да Божай Міласэрнасці;
**07.00** – гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі;
**08.00** – святая Імша перад абразом Маці Божай;
**09.00** – ружанцовая малітва;
**11.00** – галоўная ўрачыстая святая Імша на палявым алтары.

***Перад кожнай св. Імшой будзе магчымасць споведзі.***



## Падпішыцеся на "Каталіцкі Веснік"!

**Кошт падпіскі:**
**на месяц** – 89 капеек (8900 рублёў),
**на 3 месяцы** – 2 рублі 67 капеек (26700 рублёў),
**на 5 месяцаў** – 4 рублі 45 капеек (44500 рублёў).
Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".

**Наш падпісны індэкс – 63783**

**Дарагія браты і сёстры!**
**Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Росіца чакае гасцей



**Запрашаем на летнія ўрачыстасці ў Росіцу!**

Сёлета традыцыйна ўшануем нашых мучанікаў Юрыя і Антонія, а таксама падзякуем Богу за кананізацыю (абвяшчэнне святым) заснавальніка Кангрэгацыі айцоў-марыянаў Станіслава Папчынскага. Урачыстасці распачнуцца святой Імшой для пілігрымаў 5 жніўня а 18.00.

У сувязі з Сусветнымі днямі моладзі ў Кракаве ў гэтым годзе адбудзецца адна **пілігрымка: Полацк – Росіца** (з 2-га па 5-га жніўня). Запіс і падрабязная інфармацыя ў а. Аляксандра Жарнасека МІС +37529 7130233 (МТС).

Дадатковая інфармацыя: mic-rosica@tut.by

**План урачыстасцяў**

**5 жніўня, пятніца**

**18.00** – Святая Імша для пілігрымаў;
**20.00** – Акафіст да Святой Багародзіцы (вернікі Грэка-Каталіцкай Царквы);
**21.00** – Падрыхтоўка да споведзі;
**21.30** – Нешпары за памерлых;
**22.30** – Адарацыя (малітва праслаўлення).

**6 жніўня, субота**

**24.00** – Святая Імша ў гонар святых мучанікаў Юрыя і Антонія з працэсіяй на пляц мучаніцтва;
**02.00** – Набажэнства на пляцы мучаніцтва;
**03.00** – Росіцкі крыжовы шлях;
**06.00** – Гадзінкі;
**06.30** – Літургія ўсходняга абраду (вернікі Грэка-Каталіцкай Царквы);
**08.00** – Ютрань;
**09.00** – Ружанец з разважаннямі;
**10.00** – Росіцкая кніга цвярозасці;
**11.00** – Канферэнцыя "Святы Станіслаў Папчынскі – заснавальнік Кангрэгацыі айцоў-марыянаў";
**12.00** – Святая Імша ў гонар святога Станіслава Папчынскага.

*Айцы-марыяне*


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 4113

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3200 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 13.07.2016 г. у 10.28

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621






Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь